КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

# “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**
**у падтрымку беларускай культуры**
**і беларускасьці**

# №8

# Сьнежань 2014

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*
*Выходзіць раз на тры месяцы*
*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014*                    *ISSN  2291-4757*

**Дарагія сябры!**

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс змяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

# Зьмест часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

# №8, сьнежань 2014

**(стар.)**



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў выйдзе ў сакавіку 2015 года*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Прадмова да восьмага нумара часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"**

**Дарагія сябры!**

У гэтым нумары Вы знойдзеце шэраг артыкулаў сьціраваных на асьвятленне праблем будаўніцтва беларускай нацыі.

У сваім звароце да беларускай эліты Вадзім Шышко разглядае ўзаемаадносіны фізіялагічнага і ментальнага развіцьця чалавека ў дачыненьні да выкарыстаньня беларускай мовы. Аўтар спасылаецца на думкі вядомых вучоных у гэтай галіне (Maslow, Humboldt, Sapir) і падкрэсьлівае важнасьць працы па асьвеце насельніцтва Беларусі ў супрацьстаяньні глабальным працэсам, якія вядуць да зьнікненьня моў і культур, і неадходнасьці зьберажэньня беларускай мовы і традыцый для дзяцей, якія жывуць у час глабалізацыі.

Аляксандр Згерскі з пункту гледжаньня рэсентыменту абмяркоўвае прычыны, па якіх большасьць насельніцтва Расіі падтрымлівае захоп Крыма і вайну на Ўсходзе Украіны (рэсентымент – філасофскі тэрмін, які абазначае маральнасьць рабоў і адмоўныя чалавечыя комплексы, заснаваныя на зайздрасьці ў адносінах да больш моцных і пасьпяховых людзей і на культываваньні вобраза ворага). Аўтар піша пра наяўнасьць гэтага комплекса на землях Расіі, пачынаючы з часоў Івана III, Івана IУ, Пятра I. Гэты комплекс, які прыйшоў ці быў навязаны ў часы мангольскага рабства, далей захаваўся ў часы бальшавізма і Савецкага Саюза. У апошнія 10-15 гадоў праявы гэтага комплексу асабліва выразна назіраюцца ў навязываньні Расіяй ідэі "русского мира" беларусам і украінцам, менталітэт якіх адрозны ад менталітэту народаў Расіі.

Пётра Мурзёнак у артыкуле "В ВОЛОГДЕ! – ДЗЕ?!", спасылаючыся на папулісцкае карыстаньне роднай мовай некаторымі кіраўнікамі дзяржавы (Лукашэнка, Мясьніковіч, Тозік), задаецца пытаньнем, хто ж будзе адказваць за правал у выкарыстаньні мовы і нацыянальнай палітыцы, калі гэтыя кіраўнікі пойдуць на пенсію? На вырашэньне пытаньняў нацыянальнага будаўніцтва застаецца 30-40 гадоў, калі праводзіць гістарычныя паралелі з Квебекам і Шатландыяй. Адзначаецца, што ўсё яшчэ застаецца патэнцыял для нацыянальнага будаўніцтва, калі нацыянальная эліта будзе улічваць, што 83.7% насельніцтва краіны лічаць сябе беларусамі, і калі за аснову браць не ліберальныя і рэлігійныя каштоўнасьці, а нацыянальныя інтарэсы.

Ірына Хадарэнка аналізуе працэс нацыянальнага будаўніцтва ў сучаснай Беларусі з пункту гледжаньня спаборніцтва паміж этнічнай і агульнацывільнай канцэпцыямі

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

нацыі. Рэалізацыя мадэлі цывільнай нацыі патрабуе ў першую чаргу яснага вызначэньня нацыянальнай ідэі, мовы, сімвалаў, каштоўнасьцей і традыцый. Абсалютна няправільна ўжываць як сінонімы тэрміны нацыянальнасьць і грамадзянства.

У артыкуле “СЛАВЯНЕ?”, Вадзім Шышко абмяркоўвае ролю фіна-угорскіх народаў і мангола-татараў, а таксама праваслаўнай і ісламскай рэлігій у развіцьці Маскоўскай дзяржавы. Выкарыстаньне тэрміна “славяне” Масковіяй аўтар тлумачыць жаданьнем гэтай дзяржавы падпарадкаваць сабе ў 15-18 ст.ст. землі Вялікага Княства Літоўскага, на якіх пражывалі славяне-рутэны. Н. Карамзін і іншыя расійскія гісторыкі тэарэтычна абаснавалі у 19 ст. легенду аб тым, што Расійская дзяржава была заснавана славянамі. Гэта ідэя падлягае зараз крытыцы нават у самой Расіі. Аўтар падкрэслівае, што трэба адрозьніваць беларусаў, нашчадкаў ассіміляваных славяна-балцкіх плямён, і вялікаросаў, нашчадкаў розных этнічных груп, уключаючы фіна-угорскія і цюркскія народы.

Вадзім Шышко у артыкуле “ФІЗІЯЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛІЗМУ” дае абгрунтаваньне і арыгінальнае вызначэньне тэрміна нацыяналізм: “нацыяналізм – гэта тая ж самая барацьба за выжываньне, заснаваная на жывёльным інстынкце самазахаваньня і падмацаваная тэхналагічным прагрэсам чалавечага розуму”. На пытаньне як разумець нацыяналізм - “Адказ адназначны: гэтак жа сама як і да ўсіх астатніх нашых жывёльных патрэб. Ні ў якім разе не ігнараваць, але і без фанатызму.” Інстынкт выжываньня пакуль што не працуе ў беларусаў і далейшае распаўсюджваньне “русского мира” прывядзе да фізічнага і духоўнага выміраньня нашага народа. Палітыку нацыяналізма трэба ўводзіць у дзяржаве тэрмінова.

Часопіс правёў дыскусію на тэму “NATION BUILDING AND MODERNITY 2014” (на англійскай мове). У дыскусіі прынялі удзел: Ірына Хадарэнка, кандыдат культуралагічных навук, пісьменніца, грамадскі дзеяч; Інга Поповайтэ, мастэр мастацтваў, Цэнтральны Еўрапейскі Універсітэт; Антон Шэхаўцоў, дасьледчык, Інстытут Гуманітарных Навук (Аўстрыя), галоўны рэдактар кніжнай серыі “Даследаваньне правых”; Пётра Мурзёнак, доктар медыцынскіх навук, галоўны рэдактар часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”. Абмяркоўваліся дзьве тэмы: “Нацыянальнае будаўніцтва ў пост-савецкіх краінах: агульныя прыметы і розьніца” і “Узаемаадносіны паміж нацыяналізмам, патрыятызмам і шавінізмам”.

Рэдакцыя часопіса віншуе з 80-гадовым юбілеем сп. А. І. Храноўскага.
*Пётра Мурзёнак*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Вадзім Шышко: ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАЙ ЭЛІТЫ**

Як кажуць псіхолагі, калі хочаш, каб чалавек з’ехаў з глузду, прымусь яго рабіць бяссэнсоўную працу. Уласьцівасьць нашай чалавечай псіхікі такая, што нам заўсёды патрэбна якое-нібудзь тлумачэньне таму, што мы робім, чым бы мы не займаліся. Бяз выключэньняў. У тым ліку і тое, што робіць нашая пастаўская суполка ТБМ – папулярызацыя ў грамадзтве (у прыватнасьці ў Пастаўскім) беларускай мовы.

Калі мы робім сваю працу, то вельмі важна кожнаму з нас разумець, навошта гэта нам патрэбна? Канечна, мы можам гэта рабіць не задумваючыся аб тым, што робім. У нейкім сэнсе на рэлігійным узроўні. Бо веруючым таксама не патрэбны лагічныя доказы таго, у што яны вераць – ім дастаткова іх веры. Але калі чалавек прывык кіравацца ў сваім жыцьці лагічнымі разважаньнямі, а не сьляпой верай, то яму абавязкова патрэбны лагічныя абгрунтаваньні таго, што ён робіць. І нашае дзеяньне ў ТБМ не з’яўляецца выключэньнем.

Для цяперашняга звычайнага чалавека тое, што робім мы, выглядае калі ня ўвогуле глупствам, то, прынамсі, дзіцячым блюзьнерствам. Ды якая ўвогуле розьніца якой мы мовай карыстаемся? Расейскай, беларускай ці, мажліва ў будучым, ангельскай. Галоўнае, што нам ёсьць што есьці і няма вайны. Падыход вельмі цьвярозы і прагматычны. І вывучаць трэба тую мову, на якую сёньня ёсьць попыт. І калі гэта расейская мова, значыць яе і трэба вучыць.

Калі глядзець на сёньняшнюю сітуацыю, цяпер і зараз, то такія людзі маюць рацыю. Але тым ня менш ТБМ і проста прыхільнікі беларускай мовы ўсё роўна існуюць і спрабуюць ня толькі захаваць, але і пашырыць выкарыстаньне беларускай мовы. Навошта? Калі для таго, каб здабыць кавалак каўбасы, на сёньняшні дзень дастаткова і расейскай.

Для таго, каб зразумець неабходнасьць беларускай мовы трэба глядзець крыху ў далейшай перспектыве, чым цяпер і зараз. І трэба крыху паглыбіцца ў акадэмічныя веды. Адпаведна пірамідзе патрабаваньняў чалавека (А. Маслоў, гл. схему ніжэй), базавымі (а значыць і самымі галоўнымі) з’яўляюцца фізіялагічныя патрабаваньні элементарнага выжываньня чалавека як біялагічнай істоты.

Як бы гэта не здавалася занадта празаічным, але мы павінны клапаціцца ў першую чаргу аб сваім целе, бо менавіта яно з’яўляецца матэрыяльным носьбітам для ўсіх нашых ідэй. Памірае нашае цела і адразу ўсё-ўсё, што яго атачала падчас жыцьця, губляе свой сэнс. У тым ліку і мова. Як казаў Пратагор: чалавек – мера ўсіх рэчаў.

Таму ў першую чаргу мы павінны клапаціцца аб выжываньні нашага цела. І для таго, каб забясьпечыць яго усім неабходным, што працягвае існаваньне нашага цела (паветра, сон, ежа, сэкс, вада, вопратка), на самой справе не мае вялікага значэньня тое, якой мовай мы карыстаемся.

| |
|---|
| **Патрабаваньне ў самаактуалізацыі: рэалізацыя сваіх мэтаў, здольнасьцяў, разьвіцьцё сваёй асобы (чалавек абавязаны быць тым, кім ён можа быць, чалавек адчувае, што ён павінен адпавядаць асабістай прыродзе).** |
| ***Эстэтычныя патрабаваньні: гармонія, парадак, прыгажосьць.*** |
| **Пазнавальныя патрабаваньні: ведаць, умець, разумець, дасьледваць.** |
| ***Патрабаваньне ва ўвазе (шанаваньні): кампетэнтнасьць, дасягненьне посьпеху, адабрэньне, прызнаньне, слава (адчуваньне асабістай магутнасьці, адэкватнасьці, пачуцьцё ўпэўненасьці, незалежнасьці і свабоды).*** |
| **Патрабаваньне ў прыналежнасьці і любві: прыналежнасьць да супольнасьці, быць прынятым, кахаць і быць каханым (дом, сваякі, свой калектыў).** |
| ***Патрабаваньне ў бясьпецы: адчуваць сябе абароненым, пазбавіцца ад страху і няўдач, імкненьне да стабільнасьці, залежнасьці, парадку, закону, абмежаваньняў. Выяўляецца: работа, накапленьні, страхоўкі, боязь новага, кансерватызм.*** |
| **Фізіялагічныя (арганічныя) патрабаваньні: голад, смага, сэкс, сон, адпачынак і інш.** |

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*



*Абрахам Маслоў*

(*А.* ***MASLOW***, 1908-1970)

Мова, як і іншыя розныя ідэальныя каштоўнасьці, з’яўляецца патрабаваньнем вышэйшага ўзроўню, якое адпавядае ўжо чалавеку як істоце не біялагічнай, а разумнай. Таму, калі мы імкнёмся пашыраць беларускую мову, то мы павінны вызначыцца з двума пытаньнямі:

1) Ці забясьпечылі мы ўжо наша фізічнае існаваньне настолькі, каб маглі перайсьці да разьвіцьця нашых вышэйшых, ідэальных патрабаваньняў;
2) Пры ўмове, што мы перайшлі на вышэйшы ўзровень, то, калі мы хочам пашыраць беларускую мову, у чым павінен быць яе прыярытэт перад іншымі мовамі.

Калі паслухаць нашых беларусаў, то самае частае, што можна ад іх пачуць – гэта тое як цяжка жыць. Сто гадоў таму беларусы жылі па некалькі сем’яў у адной драўлянай халупіне з земляной падлогай, елі хлеб зь мякіны, у кожнай сям’і мінімум дзяцей пяць. На самой справе нялёгка. Калі паглядзець на сёньняшні дзень: ужо амаль кожная сям’я жыве у сваіх асобных дамах або кватэрах, максімум, што нараджаюць, два дзіцяці, прадуктовыя крамы ледзь не на кожным кроку з поўнымі паліцамі і так як яны не зачыняюцца, значыць людзі купляюць. Аўтамабіляў столькі, што на ўсіх стаянак не хапае. А як людзей не паслухаеш, жывуць дрэнна. Цікава, калі беларусы ўрэшце скажуць, што яны жывуць добра? Напэўна, калі ў кожнага беларуса будзе свой асабісты палац з лімузінам, а харчавацца будзе як той буржуй – ананасамі з рабчыкамі. І тое, ці хопіць яшчэ. Звычны аргумент беларусаў, што нармальны ўзровень жыцьця – гэта на Захадзе і да яго трэба імкнуцца. Што трэба імкнуцца, згодны. Але да чаго?

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Зноў узгадваем піраміду Маслоў, базавыя патрабаваньні для выжываньня чалавека:

Паветра – пакуль што, дзякуй богу, у нас яго хапае ўсім. Праўда, у буйных гарадах яно не вельмі чыстае, але ніхто не прымушае жыць у горадзе. Гэта асабістае жаданьне саміх людзей, таму і вінавацiць яны могуць толькі саміх сябе;

Сон – жыльля ў нас таксама хапае. Так, яно не заўсёды вельмі камфортнае, але ў сваёй большасьці спакойны сон забясьпечвае;

Ежа – як я ўжо ўказаў вышэй, прадуктовых крам у нас дастаткова. Выбар у іх вялікі і, прынамсі, ня хлеб зь мякіны. І так як яны не зачыняюцца, значыць людзі ў іх купляюць дастаткова прадуктаў, каб уладальнік меў прыбытак з гэтай крамы. А калі купляюць, значыць ёсьць магчымасьць купляць. Калі ж каму не падабаюцца прадукты з крамы, маўляў, хімія і г.д., то кожны можа ўзяць сабе кавалак зямлі і вырошчваць на ім сваю экалагічна чыстую гародніну. Балазе, памешчыкаў у нас зараз няма і зямлі хапае для ўсіх;

Сэкс – у сувязі з тым, што ў нас ужо не традыцыйнае грамадзтва, дзе міжасабовыя адносіны строга рэгламентуюцца, а колькасьць мужчын і жанчын прыкладна аднолькавая то знайсьці сабе партнёра для сэкса даволі лёгка;

Вада – тут можна нават не каментаваць. З улікам таго колькі ў нас у Беларусі запасаў прэснай вады гэтае пытаньне жыцьцязабясьпячэньня чалавека у нашай краіне здымаецца адразу;

Вопратка – сітуацыя нечым падобная як і зь ежай. Колькасьць крам з вопраткай пастаянна расьце. А адпаведна эканамічнаму закону, што попыт нараджае прапанову, можна зрабіць вывад, што колькасьць крам расьце таму, што людзі актыўна купляюць вопратку. А значыць у людзей ёсьць магчымасьць яе купляць. Прычым купляюць не так як нашыя дзяды, якія набывалі сабе самае таньнейшае і потым цягалі гэтую адзежыну, пакуль тая ўжо не развальвалася на плячах. Бо былі сапраўды бедныя. А цяпер? Як толькі мода зьмянілася, то ўсе адразу пабеглі ў краму за новай анучай. Не для таго, каб захаваць сваё цела ад сьпёкі або холаду, для гэтага адзеньня ў гардэробе больш, чым трэба, а для таго, каб выпендрыцца перад астатнімі, маўляў, я не горшы за вас. Але, прабачце, калі чалавек ужо дазваляе сабе павыпендрывацца, то гэта кажа толькі аб тым, што ён забясьпечыў сваё выжываньне і цяпер ужо імкнецца да раскошы. А гэта ўжо выбэнды і ў такім выпадку жаліцца, што цяжка жыць, проста сьмешна.

Так што, калі кіравацца пірамідай Маслоў, то базавыя патрабаваньні чалавека для біялагічнага выжываньня ў нас у Беларусі выкананыя. А калі нехта і скардзіцца, як

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

яму цяжка жыць, то, хутчэй за ўсё, гэты чалавек проста не разумее таго, чым ён ужо валодае, а хочыць яшчэ больш. І гэта можна аднесьці да большасьці нашага насельніцтва. Ёсьць, канечна, выключэньні, людзі сапраўды бедныя, вельмі абмежаваныя ў базавых патрабаваньнях, але іх мала. Таму можна зрабіць вывад, што матэрыяльна беларусы добра забясьпечаныя для таго каб зьвярнуць сваю ўвагу на вышэйшыя, ідэальныя патрабаваньні, адным зь якіх з'яўляецца беларуская мова.

Ну, добра. Першую адмазку звычайнага беларуса, што яму не хапае каўбасы, а мы тут з беларускай мовай да яго дакалупаліся, каб ён вывучаў і карыстаўся ёй, мы адмялі. Але тады звычайны прагматычны беларус паставіць новае пытаньне: а навошта яму гэтая беларуская мова, калі ён з такім жа (а можа нават і большым) посьпехам зможа карыстацца любой іншай мовай, напрыклад, расейскай?

Гучыць крыху недарэчна, але пытаньне сапраўды такое: навошта беларусам беларуская мова? Тут адказаць складаней, таму што мова ўвогуле не з'яўляецца такім неабходным сродкам для выжываньня як базавыя біялягічныя патрабаваньні. Калі есьці або спаць чалавек вымушаны, каб не памерці, то няведаньне мовы да сьмерці не вядзе. А значыць, каб чалавек яе вывучыў, патрэбныя нейкія іншыя стымулы, якія б былі ня менш важныя, чым страх памерці. І так як мова адносіцца да вышэйшых, ідэальных каштоўнасьцей, то і зразумець яе неабходнасьць лягчэй людзям з высокім узроўнем інтэлекта.

Калі першае пытаньне мы можам паставіць перад кожным беларусам і даказаць, што іх нежаданьне інтэлектуальна разьвівацца на самой справе зьнітавана не зь іх матэрыяльным становішчам, а са звычайнай лянотай – паварушыць сківіцамі, каб зьесьці кавалак каўбасы нашмат лягчэй, чым паварушыць мазгамі, каб нешта зразумець у гэтым жыцьці. То другое пытаньне датычыцца менавіта інтэлектуальнай эліты, людзей, якія зразумелі, што для жыцьцязабясьпячэньня свайго цела не патрэбна надта многа рэсурсаў матэрыяльных і разумовых. І якія разумеюць сваю адказнасьць перад усім чалавецтвам. Перад імі стаіць новая задача: асабістае інтэлектуальнае разьвіцьцё для стварэньня нематэрыяльных каштоўнасьцей вышэйшага ўзроўню – духоўных. Але тут нас сустракае яшчэ адна цяжкасьць – выбар накірунку. А іх вялікае мноства. Сярод іх усіх наш ТБМ абраў накірунак пашырэньня ў беларускім грамадзтве беларускай мовы. Наколькі гэты наш выбар абгрунтаваны і патрэбны нашаму грамадзтву? Тым больш калі само гэтае грамадзтва не праяўляе ніякага энтузіязма з нагоды таго, што мы робім. Такога рода сумненьні не раз апаноўвалі і мяне, і іншых удзельнікаў нашай суполкі. Значыць, трэба вызначыцца ў неабходнасьці таго, што мы робім, каб не аказалася так, што мы толькі згубім свой час і сілы, рухаючыся ў тупіковым напрамку.

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

Каб урэшце зразумець, навошта беларусам патрэбна беларуская мова, трэба выйсьці крыху далей за нашыя нацыянальныя рамкі, на агульначалавечы ўзровень. Як у свой час зазначыў вядомы нямецкі лінгвіст В. Гумбальдт – галоўнае і самае рэзкае адрозьненьне паміж мовамі ў тым, як, у якой меры той або іншы народ адлюстроўвае ў сваёй мове аб’ектыўную рэчаіснасьць, або суб’ектыўную дзейнасьць. Мовы не могуць мець аднолькавага складу, бо народы, якія імі карыстаюцца, розныя, не аднолькавыя і ўмовы іх існаваньня.



*Вільгельм фон Гумбальдт*

*(F. W. H. A. von Humboldt, 1769 – 1859)*

Але з таго часу, калі жыў Гумбальдт, мінула ўжо два стагодзьдзі і сацыяльна-этнічныя ўмовы пражываньня чалавецтва зьмяніліся карэнным чынам. Два стагодзьдзі таму абсалютная большасьць насельніцтва жыла ў вёсцы, дзе навакольнае асяродзьдзе моцна ўплывала на паўсядзённае жыцьцё чалавека і тым самым, адпаведна, фармавала пасярэдніка ў выглядзе мовы паміж суб’ектам (чалавекам) і аб’ектам (навакольная рэчаіснасьць) узьдзеяньня і разуменьня. А так як умовы пражываньня ў кожнага народа былі непаўторна ўнікальнымі, то і адлюстраваньне іх ў выглядзе мовы таксама стала такім жа.

Цяпер жа большасьць насельніцта амаль ва ўсіх краінах жыве ў гарадах. У адрозьненьні ад вёскі, дзе чалавек напрамую кантактуе з навакольным асяродзьдзем (якое ў кожным месцы планеты з’яўляецца непаўторным), у горадзе такі кантакт збольшага выключаецца. Прычым, чым горад большы, тым кантакта з навакольлем менш. А так як умовы жыцьця ў горадзе амаль паўсюль аднолькавыя, то і спосабы выразу навакольнай рэчаіснасьці зь цягам часу становяцца таксама амаль аднолькавыя. Адбываецца тое, што называюць словам глабалізацыя, ва ўсіх сэнсах.

Сам па сабе гэты працэс нядрэнны, бо пры ўзаемадзеяньні культур людзям непатрэбна па некалькі разоў вынаходзіць адзін і той самы ровар. Але пры гэтым адбываецца і такая негатыўная з’ява як нівеліроўка культур і разам з тым зьнікненьне самых розных моў, якія не пасьпелі сваечасова стаць “гарадзкімі”. Да якіх адносіцца і беларуская.

Зноў такі, вяртаючыся да першага пытаньня, калі нам для жыцьцязабясьпячэньня цалкам хапае любой іншай мовы, якая ўжо ўкаранілася ў горадзе (у дадзеным выпадку расейская), то навошта нам пашыраць беларускую?

Калі адказаць у маштабах нацыі, то можна сказаць так. У свой час навакольнае асяродзе паўплывала на фармаваньне нейкай канкрэтнай мовы. І менавіта таму гэтая мова лепш за ўсё адлюстроўвае навакольную рэчаіснасьць у дадзеным канкрэтным месцы (у эскімоскай мове ёсьць некалькі дзесяткаў вызначэньняў рознага стану сьнегу, у нашай толькі некалькі, у якой-небудзь папуаскай увогуле ніводнага). І потым адбываецца цікавая трансфармацыя, калі для з’яўленьня мовы чалавек быў павінен “прапусьціць” праз сябе тую рэчаіснасьць, у якой ён жыве, то потым створаная на аснове мясцовых асаблівасьцяў мова ўжо сама, у сваю чаргу, пачынае ўплываць на працэс успрыняцьця чалавекам навакольнай рэчаіснасьці. Чалавек пачынае бачыць яе як бы праз прызму той мовы, якой ён карыстаецца.

Як заўважыў лінгвіст Эдуард Сепір: “Людзі жывуць ня толькі ў аб’ектыўным сьвеце і ня толькі ў сьвеце грамадзкай дзейнасьці, як гэта звычайна мяркуюць; яны ў значнай меры знаходзяцца пад уплывам той канкрэтнай мовы, якая стала сродкам выразу для дадзенага грамадзтва. Было б памылковым лічыць, што мы можам цалкам усьвядоміць рэчаіснасьць, не зьвяртаючыся да дапамогі мовы, ці што мова з’яўляецца пабочным сродкам вырашэньня некаторых адмысловых праблем зносін і мысленьня. На самай жа справе “рэальны сьвет” у значнай ступені несьвядома будуецца на падставе моўных нормаў дадзенай групы... Мы бачым, чуем і ўспрымаем так ці інакш тыя ці іншыя з’явы галоўным чынам дзякуючы таму, што моўныя нормы нашага грамадзтва згадваюць дадзеную форму выказваньня”.

Карацей, усе народы адны і тыя ж з’явы ўспрымаюць па-рознаму, у залежнасьці ад сваёй моўнай традыцыі. Як прыклад – пацікаўцеся як адны і тыя ж самыя гукі якой-небудзь жывёлы перадаюцца ў розных мовах. А гэта значыць, што калі мы зь дзяцінства карыстаемся, напрыклад, рускай мовай, то тып нашага сьветаўспрыняцьця (менталітэт) пачынае імкнуцца менавіта да рускага.

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*



*Эдуард Сепір*

*(Edward Sapir, 1884–1939)*

Зноў такі, для простых людзей не мае вялікага значэньня якая ў іх будзе ментальнасьць. Хоць кітайская, галоўнае, каб была магчымасьць задаволіць усе свае базавыя фізіялагічныя патрабаваньні. Але інтэлектуалаў працэс зьвядзеньня ўсіх моў да некаторых адзіных не павінен пакінуць у спакоі.

Па-першае, чыста эстэтычна, нівеліроўка ўсіх арыгінальных этнічных культур да нейкай адзінай, надэтнічнай гарадзкой, зьбедніць увогуле ўсю нашу чалавечую культуру. Замест усіх колераў вясёлкі у нас застанецца толькі адзін.

А па-другое, гэта яшчэ і больш глыбокая, інтэлектуальная праблема. Калі на планеце застанецца толькі некалькі асноўных моў, то і людзі будуць успрымаць навакольную рэчаіснасьць толькі праз гэтыя мовы. Умоўна кажучы, гэта як бачыць навакольны сьвет толькі ў інфра-чырвоным выпраменьваньні, толькі гэта будзе датычыцца не таго, што мы бачым, а таго, як мы думаем, тыпу нашага мысьленьня.

Навошта ўвогуле ўсё гэта трэба? Для больш дынамічнага разьвіцьця ўсяго чалавецтва ў цэлым. Як ужо было зазначана вышэй, розныя мовы стымулююць розныя тыпы мысьленьня чалавека, што, адпаведна, народзіць і розныя погляды і падыходы да адных і тых жа рэчаў, што дазволіць стварыць для якой-небудзь канкрэтнай рэчы або з’явы больш поўную і аб’ектыўную карціну. Канечна, для абмену створанымі ідэямі нядрэнна было б, каб ва ўсім сьвеце была нейкая адзіная

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

надэтнічная мова. І не мае вялікага значэньня, што гэта будзе за мова. Але вельмі важна, каб у якасьці роднай мовы, на аснове якой будзе створана семантыка і менталітэт чалавека, заставалася свая.

І гэта датычыцца ўсіх інтэлектуалаў, у якіх ёсьць пачуцьцё адказнасьці, аб чым бы вы не клапаціліся. Калі вас хвалюе будучыня ўсёй планеты, то вы павінны разумець, што ўніфікацыя мовы і культуры прывядзе да духоўнага крызісу ўсё чалавецтва. Калі вы хвалюецеся толькі за сваю асабістую нацыю і мову, то таксама разумееце, што калі ваша мова не стане агульнай на ўсёй планеце, то проста зьнікне, разам і з вашай нацыяй. Калі адзінае, за што вы хвалюецеся, толькі за сваіх дзяцей, а ўсё астатняе гары сінім полымем, то таксама трэба разумець, што калі ніяк не супрацьстаяць глабальным працэсам зьнікненьня розных моў і культур, то вашыя дзеці будуць жыць у аднастайным сьвеце, што толькі спачатку прывядзе да духоўнага крызісу, а за ім, звычайна, ідзе крызіс і матэрыяльны. А кожны ж з бацькоў хоча, каб у дзяцей склалася добрая будучыня. Таму і трэба аб гэтым клапаціцца нават такім, здавалася б на першы погляд зусім абстрагіраваным чынам, як захаваньне сваёй нацыянальнай мовы. Прычым, датычыцца гэта не толькі беларусаў, але і ўсіх народаў. Усе павінны берагчы сваю нацыянальную мову і дапамагаць астатнім народам у гэтай справе.

Такім чынам мы адказалі і на другое пастаўленнае намі пытаньне: чаму беларускамоўная інтэлектуальная эліта абавязаная разьвіваць і пашыраць у беларускім грамадзтве менавіта беларускую мову, а не якую-небудзь іншую.

Але зноў паўтаруся, гэтая інфармацыя будзе карыснай і прыдатнай толькі для людзей інтэлектуальна разьвітых, бо для звычайнага чалавека, для якога жыцьцёвае шчасьце прамапрапарцыянальнае памеру кавалка каўбасы ў яго талерцы, усе гэтыя разважаньні здадуцца калі і ня поўнай бязглуздзіцай, то дзіцячым блюзьнерствам як мінімум.

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Vadzim Shyshko: THE ADDRESS TO THE BELARUSIAN ELITE**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2014, issue 8, pp. 6-15)*

The author considers interrelations between physiological and mental human development in application to the native language usage, in particular, for Pastavy region of Belarus, and, generally for Belarus. Understanding that the Belarusian language is in depressive conditions because of preferable usage of Russian language the author is questioning why and what should undertake Belarusian elite, local and as a whole, to improve the situation with native language. The author utilises the theories and opinions of Maslow, Humboldt, and Sapir, the prominent scientists, who demonstrated the role of social and language practices in the humankind thinking, to stress that Belarusian intellectuals should continue the work in term of enlightenment of population, and usage of Belarusian language. It is absolutely necessary to oppose to the global processes of extinction of different languages and cultures, and to keep for children Belarusian language and traditions while living in a diversity world.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

Аляксандр Згерскі: **ШТО БАДЗЕЦЬ РАСІЮ, або КУЛЬТЫВАЦЫЯ РЭСЕНТЫМЕНТУ**

У сярэдзіне гэтага лета я вырашыў завітаць у вёску да сваякоў у Магілёўскай вобласці. Па дарозе туды надумаўся заехаць у вясковую краму. Там я пачаў з агляду асартыменту тавараў і іх кошту, пакуль я выбіраў, некалькі жанчын каля касы, у чаканні прывозу новага тавара, размаўлялі пра жыццё ды палітыку. Ну і зразумела ж дайшла справа і да падзей на Украіне. Адна з жанчын пачала пералічваць усе тыя жудасныя факты, якія можна пачуць як з боку ўкраінскіх СМІ, так і з боку расійскіх. Іншая жанчына, больш сталага ўзросту, задуменна слухаючы, сказала: "І што гэтую Расію ўсё бадзець, ну чаму яны ўсюды лезуць?". "Дык гэта ж не яны, а амерыканцы ваду каламуцяць," – нерашуча запярэчыла першая. Але прадаўшчыца не дала разгарнуцца дыскусіі і, падазрона пазіраючы ў мой бок, дыпламатычна ўставіла: "Ды ўсе яны там добрыя!" Я тым часам расплаціўся і выйшаў з крамы.

Вядома мяне крыху здзівіла, што жанчына з вёскі, якая напэўна глядзіць толькі дзяржаўныя беларускія ды расійскія ТВ каналы, можа мець такія погляды адносна ролі Расіі ў гэтым канфлікце ва ўсходняй Украіне. Але я патлумачыў гэты факт тым, што хутчэй за ўсё ў яе ёсць унук ці ўнучка, якія шукаюць альтэрнатыўную інфармацыю ў інтэрнэце. Зацікавіў мяне таксама і выраз: "Што бадзець Расію?" Я не ведаю як у іншых месцах Беларусі, а тут гэтае слова выкарыстоўваецца ў асноўным у негатыўных азначэннях. Так кажуць калі хочуць выказаць чыё-небудзь не вытлумачальнае ірацыянальнае памкненне нашкодзіць, прынесці страту, перарабіць усталяваны лад на вэрхал. Само ж слова відавочна паходзіць ад дзеяслова бадаць. Нашы продкі з дагістарычных часоў жылі побач з жывёламі і дзікімі, і свойскімі. Разбуральную моц іх капытоў, іклаў і рагоў, яны ведалі і назіралі ў сваім паўсядзённым жыцці. Дык вось бадзець азначае бадае, прычым не так, што баднула, а цяпер баліць, а так, што бадае зараз і пастаянна. Так кажуць пра негатыўны ўнутраны псіхалагічны стан, вытлумачыць рацыянальным чынам які немагчыма, быццам нябачны д'ябальскі рог разварочвае нешта ўнутры, у душы той істоты, аб якой ідзе гаворка, прымушаючы яе рабіць небяспечныя ўчынкі. Так, напрыклад, кажа гаспадыня пра збродлівую карову, якая, не гледзячы ні на якія бізуны, імкнецца адарвацца ад статка і ўлезці каму ў агарод ці забрысці ў які хмызняк. Альбо жонка ў роспачы будзе скардзіцца суседцы на мужа п'яніцу, якому толькі і бадзець, што гэтую чарку ў горла ўліць.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Дык што ж бадзе гэтую Расію? Як так выйшла, што кіруючая групоўка на чале з Пуціным спачатку падступна анэксавала Крым, а потым развязала крывавую бойню на ўсходзе Украіны? Пры гэтым падаўляючая большасць насельніцтва Расіі імгненна і вельмі ахвотна паверыла ў шалёную прапаганду крамлёўскіх ідэолагаў. Чаму яны раптам вырашылі, што на Украіне засталіся толькі фашысты і ўвесь свет жадае Расіі няшчасця?

Праглядаючы сёння нешматлікія незалежныя інтэрнэт-выданні ў Расіі нельга не заўважыць роспач расійскіх інтэлектуалаў. Тыя з іх, хто не падтрымлівае агрэсію супраць Украіны, хто аспрэчвае хлуслівыя заявы крамлёўскай прапагандычнай машыны, таксама задаюцца гэтым пытаннем: як так сталася, што народ пайшоў за дзікунамі, якія клічуць у ізаляцыю ад цывілізаванага свету і да дыктатуры, а не за дэмакратычнымі каштоўнасцямі? І трэба адзначыць шмат у каго з іх проста апускаюцца рукі ад бяссілля нешта змяніць, і шмат хто супраціўляецца гэтаму памутненню розуму толькі па інэрцыі з пачуцця грамадскага абавязку, зняверыўшысь у выніку. Варта аддаць ім належнае, гэтым некалькім адсоткам расійскага грамадства, што не згубілі розума і годнасці. Магчыма, у будучыні толькі яны і змогуць вырваць свой народ з цемры сярэднявечных уяўленняў, а таму толькі дзякуючы гэтай іх нязломнай пазіцыі ў расійскага народу ёсць шанец на існаванне.

Аднак не ў першыню ў гісторыі Расіі такое каласальнае разыходжанне ў грамадстве. Нікалай Бярдзяеў у сваёй працы “Руская ідэя” апісвае рэвалюцыйныя падзеі 1917-га году ў Расіі праз вобраз вежы: “. Я ўспамінаю яркі вобраз разрыву і расколу ў рускім жыцці. У Вячаслава Іванова на “вежы” - так называлася яго кватэра на рагу самага верхняга паверха высокага дома супраць Таўрычнага палаца - па серадах, на працягу некалькіх гадоў, збіралася культурная эліта: паэты, раманісты, філосафы, навукоўцы, мастакі, акцёры. На “ Іваноўскіх серадах “чыталіся даклады, вяліся самыя вытанчаныя спрэчкі. Гаварылі не толькі на літаратурныя тэмы, але і на тэмы філасофскія, рэлігійныя, містычныя, акультныя.

Прысутнічаў колер рускага рэнесансу. У гэты ж час унізе, у Таўрычаскім палацы, і вакол, бушавала рэвалюцыя. Дзеячы рэвалюцыі зусім не цікавіліся тэмамі “Іваноўскіх серад” … Яны не цікавіліся Дастаеўскім, Л. Талстым, Вл. Салаўёвым, не ведалі новых рухаў заходняй культуры. Таму рэвалюцыя была ў нас крызісам духоўнай культуры. Ваяўнічае бязбожнасць камуністычнай рэвалюцыі тлумачыцца не толькі станам свядомасці камуністаў, вельмі звужанага і які залежыць ад рознага роду ressentiments, але і гістарычнымі грахамі праваслаўя, якое не выконвала сваёй місіі ператварэння жыцця, падтрымліваючы лад, заснаваны на няпраўдзе і прыгнёце.”

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Адзначым адну важную характарыстыку рэвалюцыі, якую прапануе Бярдзяеў - духоўны крызіс, а таксама залежнасць народных мас, якія рабілі рэвалюцыю, ад ressentiments. Гэта тэрмін ніцшэанскай філасофіі. Рэсентымент гэта мараль рабоў, гэта негатыўныя чалавечыя комплексы заснаваныя на зайздрасці да больш моцных, паспяховых, пры гэтым у свядомасці культывуецца вобраз ворага, а сістэма каштоўнасцей чалавека рэсентыментальнага не можа ствараць нічога свайго, але знішчае, спаганьвае, або прысвойваючы, сістэму каштоўнасцей ворага. Рэсентыментальнай маралі супрацьстаіць мараль высакароднага, свабодалюбівага чалавека.

Эсхаталагічным называў Бярдзяеў расійскі народ. Эсхаталагічнасць, паводле слоўніка, гэта сістэма рэлігійных поглядаў і ўяўленняў пра канец свету, адкупленне і замагільнае жыццё, пра лёс Сусвету і яго пераходу ў якасна новы стан. Эсхаталагічнасць рускіх людзей, паводле рэлігійнага расійскага філосафа Бярдзяева, гэта імкненне да ўсеагульнага выратавання, якое прымушае рускіх адчуваць сваё наканаванне і пакліканне перад высокай мэтай, якая з'яўляецца боскай воляй. Менавіта таму рускія такія максімалісты. Гэта канечне прыгожыя словы, якія выбітны расійскі інтэлектуал прысвячае свайму народу, гэта натуральна. Але ці адпавядаюць яны рэчаіснасці? Гледзячы на сённяшнія падзеі, на вайну, якую развязала Расія супраць Украіны, на ўсе тыя хвалі нянавісці, што захліснулі расійскі народ, эсхаталагічнасць сучаснага расійскага грамадства выглядае не як боская воля, а хутчэй як д'ябальская, і ў цьмяных злавесных водбліскаў гэтай нянавісці і шавінізму праглядаюцца карціны апакаліпсісу.

Напэўна, гісторыю дачынення паміж высакароднасцю і рэсентыментальнасцю можна прасачыць як у асобнага чалавека, так і ў цэлага народа. Я думаю, што шавіністычныя і нацысцкія (не нацыяналістычныя) праявы можна ў асноўным аднесці да рэсентыментальнай маралі, якія ў большай ці меншай ступені ўласцівы кожнаму народу. Так, напрыклад, яшчэ нядаўна, крыху больш за паўсотню год у Англіі можна было пабачыць надпісы, накшталт такой: "З сабакамі і ірландцам уваход забаронены". Зараз жа Англія небеспадстаўна лічыцца адной з самых дэмакратычных і цывілізаваных краін.

Але гаворка зараз пра Расію, бо менавіта яна пачынае агрэсію ў суседняй краіне, падымаючы, скарыстоўваючы, культывуючы пры гэтым вялікі рэсентыментальны шавіністычны комплекс, які да часу дрэмле ў расійскай загадкавай душы. І вось адзін з найноўшых прыкладаў гэтага комплексу.

Мінулай вясной на прарасійскіх мітынгах ва ўсходняй Украіне прыхільнікі далучэння да Расіі, людзі з Георгіеўскімі стужкамі, патрабавалі ад тых, хто

прытрымліваецца іншых меркаванняў і выступае за цэласную Украіну, стаць на калені перад раз’юшаным натоўпам, які гатовы парваць на кавалкі за любою іншую думку, за адрознае меркаванне, то бок, сімвалічна стаць на калені перад Расіяй. Так было паўсюль на такіх мерапрыемствах арганізаваных Масквой, яе дыверсантамі, якіх яна засылае на Украіну.

У гэты ж час па ўсіх расійскіх СМІ, падкантрольных пуцінскаму рэжыму, а такіх падаўляючая большасць, на ўсіх узроўнях улады і сярод вядомых прадстаўнікоў расійскага грамадства з рознымі палітычнымі поглядамі, пульсавала адна асноўная думка, адзін пасыл – Расія падымаецца з кален!

Гэта не выпадкова так склалася, гэта заканамернасць – калі Расія падымаецца з кален, яна імкнецца паставіць на калені бліжэйшыя народы. У Горлаўцы на мітынгу каля аддзелу міліцыі натоўп прарасійскіх мітынгоўцаў таксама патрабаваў ад захопленага імі супрацоўніка міліцыі стаць на калені, гэта ледзь не скончылася для яго смерцю. На некалькіх відыа былі зафіксаваны агідныя паводзіны азвярэлых прарасійскіх актывістаў. На адным з відыа гучыць пытанне: “А што будзе калі ён стане на калені?” У адказ чуем : “Нічога не будзе, тады яго адпусцяць”. Гэта істотны момант – не прыніжэнне муляе вочы расійскай імперскай свядомасці, а ўсё самастойнае, свабоднае, высакароднае, годнае. Патрабуючы ад суседніх народаў пакоры, расійская свядомасць засмечаная рэсентыментальнымі шавіністычнымі комплексамі, можа прымаць і цярпець побач з сабой толькі рабскае, маральна нізкае. Так расійская ментальнасць, падымаючыся, прапануе суседнім народам дзеля самазахавання апусціцца да ўзроўню рабскай самасвядомасці.

“Масковія была выхавана і вырасла ў жудаснай і гнюснай школе мангольскага рабства. Яна ўзмацнілася толькі дзякуючы таму, што стала virtuosa ў мастацтве рабства. Нават пасля свайго вызвалення Масковія працягвала гуляць сваю традыцыйную ролю раба, які стаў гаспадаром. Пасля Пётр Вялікі спалучаў палітычнае мастацтва мангольскага раба з ганарлівымі імкненнямі мангольскага ўладара, якому Чынгісхан завяшчаў ажыццявіць свой план заваёвы свету ...”, - пісаў К. Маркс.

Расійская імперыя паўставала з Маскоўскага княства, побач з ім было некалькі канкуруючых княстваў, якія цяпер складаюць ядро Расіі. Адно з іх Ноўгародскае, па сутнасці гэта была рэспубліка з вечавым кіраваннем і выбарнай уладай. У 1478 годзе ноўгародская дзяржава перастала існаваць. Іван III бацька Івана Жахлівага захапіў Ноўгарад разагнаў і скасаваў веча, жорстка задушыў усялякую апазіцыю Маскве. Трагічным было падзенне гэтай унікальнай сярэднявечнай рэспублікі, яна не змагла супрацьстаяць Маскоўскаму княству, якое кіравалася па ўзору Залатой Арды.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Дэспатычнасць, поўнае падпарадкаванне царквы свецкай уладзе, гарызантальная сацыяльная іерархія, паводле якой усё насельніцтва лічылася «государевыми холопами» даволі моцна спрыяла выспяванню рэсентыментальных комплексаў. Іван IV Жахлівы, напэўна, адзін з самых рэсентыментальных кіраўнікоў Масковіі быў, як лічаць даследчыкі, чалавекам з цяжкімі псіхічнымі адхіленнямі, пры такой сістэме ўлады ніхто не мог пазбавіць яго трона. У 1569 годзе, падазраючы жыхароў Ноўгарада ў здрадзе, гэты дэспат, вар'ят распачаў крывавы паход на суседнія гарады, якія яшчэ нядаўна былі самастойнымі, на Ноўгарад і Пскоў. Апрычнікі, войска, якое падпарадкоўвалася толькі цару, і набранае ім дзеля расправы з апанентамі, якое здзяйсняла тэрор і рэпрэсіі па загаду цара, пачалі свае катаванні толькі трохі ад'ехаўшы ад Масквы. Аднымі з першых на шляху гэтага войска смерці сталі Цвер, Таржок, Клін і інш. Калі ж Іван IV з апрычнікамі дайшлі да Ноўгарада, то месцячы гэтага гораду зазналі сапраўдныя пякельныя пакуты: людзей забівалі да смерці, тапілі, жарылі ў распаленай муцэ. Гісторыкі кажуць, што ў выніку гэтага паходу лічба забітых, закатаваных і тых, хто памёр ад голаду і эпідэмій, бо былі выграбены ўсе запасы ежы, дасягае 15-ці тысяч чалавек, пры тагачасным насельніцтве Ноўгарада ў 30 тысяч. І гэта толькі ў адным Ноўгарадзе! А тым часам пачасціліся набегі крымскіх татараў. У 1570 яны спустошылі Разаншчану, а ў 1571 крымскія татары ўжо палілі Маскву, падмануўшы ўдалым манеўрам расійскае войска, якое чакала іх пад Серпухавам. Сам Іван пасля гэтых паразаў выйшаў на перамовы да паслоў хана ў сярмязе, гэтым падкрэсліваючы, перавагу сваіх ворагаў і сваё жабрацтва. У гэтай гісторыі яскрава выяўляецца рэсентыментальная сутнасць тагачаснай маскоўскай улады. Татары для Івана IV былі накшталт кары Божай, прыроднага бедства. А вось жыхары суседніх княстваў, якія ўжо належалі Масковіі, нават падумаць не маглі аб тым, каб нешта там вырашаць за саміх сябе – гэта быў самы вялікі грэх і правіна перад Масквой. Што для рэсентыментальнага і падступнага цара Івана Жахлівага было выйсці і прыніжацца перад пасламі? Ды нішто, а вось непадпарадкаванне, магчыма толькі ўяўнае, сваіх халопаў прыводзіла, па ўсім відаць, яго ў шаленства.

Напэўна, самым свабодным і менш абскурантысцкім для царскай Расіі было 19-е ст. Пачынаючы, з часоў Кацерыны II, расійская эліта стала актыўна далучацца да еўрапейскай культуры. Потым гэтаму паспрыяла сумесная перамога над Напалеонам, калі вялікая колькасць расійскіх людзей, афіцэраў перш за ўсё, адкрыла для сябе Еўропу. Як вынік еўрапеізацыі паўстанне дзекабрыстаў у 1825 годзе, якое цалкам правалілася, але праграма, якую прапанавалі дзекабрысты, была значна больш дэмакратычнай за дзяржаўны і сацыяльны лад у тагачаснай расійскай імперыі. Канечне можна сказаць, што ў цэлым і ў 19-м ст. расійская імперыя засталася такой

жа азіяцкай як была раней, так, напрыклад, паўстанні ў 1830-м і 1863-м на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай было з большага расійскай элітай асуджаны. Але, так ці інакш, за гэтае стагоддзе ў расійскім грамадстве была створана катэгорыя людзей, што магла думаць і дзейнічаць незалежна ад дзяржавы, і нават ісці насуперак ёй, карыстаючыся сваім розумам і прынцыпамі. Напэўна, гэта дазваляе лічыць 19 ст. самым прагрэсіўным у расійскай гісторыі.

А далей была рэвалюцыя і як цалкам слушна паказвае Бярдзяеў, ізноў перамагла "маса", якую накіроўвалі, даходлівымі, як шрот са стрэльбы рэсентыментальнымі лозунгамі бальшавікі. Усю зямлю сялянам, фабрыкі рабочым, мір народам, адабраць і падзяліць. І згодна рабскай маралі былі знойдзены ворагі: арыстакраты, буржуі, кулакі, інтэлігенты, імперыялісты і г. д. Наогул, ворагі былі патрэбны для СССР увесь час яго існавання, як патрэбны дровы ці вугаль для руху паравозу. І якім бы не быў маральны ўзровень расійскага народу да рэвалюцыі, пасля рэвалюцыі, пасля таго як уладу захапілі людзі, якія кіраваліся не самымі высакароднымі памкненнямі, ён стаў значна горшым. Рэпрэсіўная савецкая дзяржава наўпрост культывавала адмоўныя маральныя каштоўнасці ў грамадстве. Зайздрасць, паклёп, стукацтва практыкаваліся і падтрымліваліся дзяржаўнымі органамі. Зайздрасць да больш заможнага набыла сваю легітымнасць і стала адной з базісных актуальных рэакцый у савецкім грамадстве, яна маскіравалася пад заклікамі да ўсеагульнай роўнасці. Паталагічны недавер да чалавека, калегі, сябра, сваяка, і безумоўная адданасць партыі - такі маральны падмурак закладваўся ў імперыі зла. Хаця трэба адзначыць, што апошняе – безумоўная адданасць – ёсць нішто іншае як развіццё да максімума той самай цёмнай сярэднявечнай ідэі – "все государевы холопы". Толькі цар цяпер быў калектыўны – ЦК КПСС.

У тэорыі ў савецкіх камуністаў атрымоўвалася ўсё вельмі ўдала. Але на практыцы выйшла не так проста як намалявалі сабе бальшавікі, прынамсі некаторыя з іх, якія сапраўды наіўна верылі, што змогуць пабудаваць рай на зямлі. Як бы там не было, а бязбольна замяніць дарэвалюцыйную этыку, з базіснымі каштоўнасцямі (хай сабе і выкананне іх бездакорным ніколі не было), заснаванымі на хрысціянстве і даўніх традыцыях, на этыку камуністычную не атрымалася. Цікавыя трансфармацыі гэтага жудаснага і, бадай, небывалага эксперыменту сталі добра праглядацца на прыканцы існавання СССР. Усеагульная "ураўнілаўка" прывяла да татальнай незацікаўленасці працоўных у самой працы, бо колькі і як якасна не рабі ўсё роўна атрымаеш як той, хто нічога не робіць. "Сачкаванне" – адвільванне ад працы, стала асноўнай прыкметай савецкага чалавека. З гэтага вынікаюць і адносіны да тых, хто імкнуўся працаваць добра, альбо рабіў выгляд, што працуе добра, такіх называлі выскачкамі і

 *ISSN 2291-4757*

вінаваціліі ў жаданні выслужыцца перад начальствам. Тут дарэчы будзе ўспомніць словы В. Высоцкага з песні "Выпадак на шахце":

"Сидели пили вразнобой

"Мадеру", "старку", "зверобой",

И вдруг нас всех зовут в забой, до одного:

У нас - стахановец, гагановец,

Загладовец,- и надо ведь,

Чтоб завалило именно его…

…Его нам ставили в пример,

Он был, как юный пионер - всегда готов…

… Спустились в штрек, и бывший зек -

Большого риска человек -

Сказал: "Беда для нас для всех, для всех одна:

Вот раскопаем - он опять

Начнет три нормы выполнять,

Начнет стране угля давать - и нам хана…"

Цяжка знайсці лепшы мастацкі прыклад для апісання гэтага феномена. Вось так, парадаксальным на першы погляд чынам, па сапраўднаму маральным у савецкім грамадстве, нават высока маральным, становіцца такое існаванне, калі чалавек не імкнецца добра выконваць свае абавязкі, а наадварот усяляк спрабуе адседзіцца да канца працоўнага дня. Але трэба адзначыць, што гэта адносіцца толькі да працоўных людзей. Што тычацца ўладных колаў, то адданасць працы і лініі камуністычнай партыі ўсяляк падкрэслівалася і выпіналася. Так амаль натуральным чынам узнікаюць два розныя па мэтах і матэрыяльнай забяспечанасці сацыяльныя класа, якія ў тэорыі ўзнікнуць не павінны былі.

Прадпрымальніцтва ў Саюзе жорстка пераследвалася. Шматлікія дзяржаўныя службы строга сачылі за тым, каб савецкія грамадзяне не займаліся спекуляцыяй, ці вытворчасцю якіх-небудзь тавараў на продаж. Але чалавек на тое і чалавек: ён

заўсёды хоча жыць лепей. А на невялікі заробак лепей жыць не атрымоўвалася. Тут з'яўляюцца несуны – людзі, якія цішкам выносяць, крадуць з прадпрыемстваў, з калгасаў і саўгасаў розныя матэрыяльныя каштоўнасці. Нават падчас сталінскага тэрору гэтая з'ява мела месца, калі за скрадзены калгасны каласок і дванаццацігадовых падлеткаў накіроўвалі ў Сібір, дзеці і дарослыя з прычыны вялікага голаду ішлі на такую рызыку. З'ява гэта насіла татальны характар і была ўласцівай для любога месца ў СССР. У застойныя брэжнеўскія часы на ўсёй прасторы гэтай дзяржавы замацавалася не галосная маральная норма – у дзяржавы красці можна і нават трэба, а ў чалавека грэх. Менавіта так, за крадзёж дзяржаўнай маёмасці ніхто на міжасобным узроўні дрэннага слова ў бок злодзея не казаў, акрамя адпаведных органаў.

У Саюзе склалася цікавая каштоўнасная іерархія прафесій. Першай у ёй зразумела была партыйная наменклатура, якой належала ўся паўната ўлады. Пракуратура, міліцыя, суды падпарадкоўваліся партыйнай вертыкалі і былі ўжо другой прыступкай, да якой імкнуліся савецкія грамадзяне, якія хацелі апынуцца наверсе сацыяльнай структуры. Хаця трэба адзначыць, што ў тую ж міліцыю імкнуліся далёка не ўсе. Існавала вялікая непавага ў простых грамадзян да людзей гэтай прафесіі, бо метады, якія выкарыстоўвала савецкая міліцыя часта былі далёкімі ад літары закона. Далей ішлі тыя, хто меў доступ да размеркавання матэрыяльных рэсурсаў: загадчыкі складоў, магазінаў, базаў, гаражоў, начпроды ў войску, персанал сталовых, бойняў, ды проста прадаўшчыцы ў крамах, куды пастаўляліся дэфіцытныя тавары. Так у краіне працоўных, якая ў тэорыі павінна быць і для працоўных, узнікае новы сацыяльны феномен - "блат" – сувязі, дзякуючы якім можна было набыць сабе рэдкі тавар ці якуюсь палёгку ў прасоўванні па кар'ернай лесвіцы, ці пры паступленні ва ўніверсітэт. Адукацыя, разумовыя здольнасці, вопыт далёка не заўсёды мелі вырашальную ролю ў працаўладкаванні на "цёплае" месца. Галоўнымі былі сувязі, без іх, руху па сацыяльных ліфтах амаль не было, выключэнні былі рэдкімі. Чалавек працы, рабочыя спецыяльнасці сталі самымі непрывабнымі ў СССР.

Дазволю сабе адзін прыклад з уласнага досведу. Я пачынаў вучобу ў школе пры Саюзе, а скончыў яе ўжо ў незалежнай Беларусі. Памятаю як у трэцім класе настаўніца па чарзе спытала нас хто кім хоча стаць. Пасыпаліся стандартныя адказы: касманаўт, балерына, доктар. Але напрыканцы апытання адзін наш аднакласнік сказаў, што хоча стаць трактарыстам. Што тут сталася! Увесь клас грымнуў смехам! Справа ў тым, што ўсіх нас дома бацькі пужалі, што калі мы будзем дрэнна вучыцца і дрэнна сябе паводзіць, то хлопцы стануць трактарыстамі, а дзяўчынкі – даяркамі ці прыбіральшчыцамі. Настаўніца паспрабавала запярэчыць такой рэакцыі, сказаць, што ўсе прафесіі патрэбныя і вартыя павагі, але прагучала гэта па казённаму

ненатуральна, было відаць, што сваіх дзяцей яна вучыць таму ж самаму чаму вучылі ўсе. Гэта яскрава сведчыць пра тое, як цанілася праца ў краіне працоўных. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што чалавек працы на Захадзе адчуваў сябе больш годна і не быў аб’ектам пагарды, як тое сталася ў СССР. Пры гэтым у дэмакратычных краінах з рынкавым капіталізмам гэтага дамагліся без пафасу і без клятваў верай і праўдай служыць менавіта працоўнаму народу.

Карысна ў сувязі з тым маральным становішчам, што існаваў у Савецкім Саюзе ў дачыненні да працы, успомніць словы і досвед расійскага пісьменніка Варлама Шаламава, які шмат год правеў у ГУЛАГу і пасля вяртання здолеў напісаць цыкл апавяданняў пра быт, парадкі, якія панавалі ў сталінскіх лагерах. Я падаю ўрывак з яго апавядання “Чырвоны Крыж”, у якім ён разважае аб уздзеянні лагернай сістэмы на асобу і аб ролі асаблівай крымінальнай катэгорыі зняволеных, т. з. “блатных” на гэтую сістэму: “Блатныя ж - ня людзі. Уплыў іх маралі на лагернае жыццё бязмежны, усебаковы. Лагер - адмоўная школа жыцця цалкам і поўнасцю. Нічога карыснага, патрэбнага ніхто адтуль не вынесе, ні сам зняволены, ні яго начальнік, ні яго ахова, ні міжвольныя сведкі - інжынеры, геолагі, урачы, - ні начальнікі, ні падначаленыя. Кожная хвіліна лагернага жыцця - атручаная хвіліна. Там шмат такога, чаго чалавек не павінен ведаць, не павінен бачыць, а калі бачыў - лепш яму памерці. Зняволены прывучаецца там ненавідзець працу - нічому іншаму і не можа ён там навучыцца. Ён навучаецца там лісліваcці, хлусні, дробным і вялікім подласцям, становіцца эгаістам. Вяртаючыся на волю, ён бачыць, што ён не толькі не вырас за час лагера, але што інтарэсы яго сталі маленькімі, сталі беднымі і грубымі. Маральныя бар'еры адсунуліся некуды ў бок. Аказваецца, можна рабіць подласьці і ўсё ж жыць. Можна хлусіць - і жыць. Можна абяцаць - і не выконваць абяцанняў і ўсё ж такі жыць. Можна прапіць грошы таварыша. Можна выпрошваць міласціну і жыць! Жабраваць і жыць!

… Начальнік прывучаецца ў лагеры да амаль бескантрольнай улады над арыштантамі, прывучаецца глядзець на сябе як на бога, як на адзінага паўнамоцнага прадстаўніка ўлады, як на чалавека вышэйшай расы.

… Малады селянін, які трапіў у заключэнне, бачыць, што ў гэтым пекле толькі вуркі жывуць параўнальна добра, з імі лічацца, іх пабойваецца ўсемагутнае начальства. Яны заўсёды апранутыя, сытыя, падтрымліваюць адзін аднаго … І селянін пачынае браць прыклад з блатарей у сваіх паводзінах, у сваіх учынках. Ён падтаквае кожнаму слову блатарей, гатовы выканаць усе іх даручэнні, кажа пра іх са страхам і глыбокай павагай. Ён спяшаецца ўпрыгожыць сваю прамову блатнымі слоўцамі - без гэтых

блатных слоўцаў не застаўся ні адзін чалавек мужчынскага або жаночага полу, зняволены або вольны, які пабываў на Калыме.

Словы гэтыя - атрута, яд, які залез у душу чалавека, і менавіта з авалодання блатным дыялектам і пачынаецца збліжэнне фраера (чалавек, які не належыць да крымінальнага свету, *заўвага мая А. З.*) з блатным светам. Інтэлігент-зняволены падаўлены лагерам. Усё, што было дарагім, растаптана ў прах, цывілізацыя і культура злятаюць з чалавека ў самы кароткі тэрмін, які вылічваецца тыднямі.

…Інтэлігент напалоханы навечна. Дух яго зламаны. Гэтую напалоханасьць і зламаны дух ён прыносіць і ў вольнае жыццё. Інжынеры, геолагі, лекары, якія прыбылі на Калыму па дагаворах з Дальстроем, разбэшчваюцца хутка: доўгі рубель, закон - тайга, рабская праца, якой так лёгка і выгадна карыстацца, звужэнне інтарэсаў культурных - усё гэта разбэшчвае, чалавек, які доўга папрацаваў у лагеры, не едзе на мацярык - там яму грош цана, а ён прывык да багатага, забяспечанага жыцця. Вось гэтая разбэшчанасць і называецца ў літаратуры «клічам Поўначы». У гэтай разбэшчанасьці чалавечай душы ў значнай меры вінаваты блатны свет, крымінальнікі-рэцыдывісты, чые густы і звычкі адбіваюцца на ўсім жыцці Калымы.”

І вось паступова турэмныя паняцці і парадкі, разам са зняволенымі, якія адбылі свой тэрмін, прыходзяць і ў цывільнае грамадства. Паступова пэўная частка грамадства пачынае лічыць іх эталонамі маральных каштоўнасцей. Само савецкае грамадства моцна крыміналізуецца. Крымінальнае жыццё гераізуецца і рамантызуецца. А пачынаючы з 80-х, калі дзяржава крыху слабее, узровень злачыннасці значна ўзрастае. У гэты час канчаткова развальваецца бальшавіцкая ідэалогія, і тая атрута і разбэшчанасць, пра якую пісаў Шаламаў, паступова дае свае ўсходы. К канцу 80-х, пачатку 90-х крымінальны свет пачынае кантраляваць амаль увесь бізнес, які толькі пачаў нараджацца на прасторы СССР. Згодна з лепшымі лагернымі традыцыямі людзі, якія ментальна былі заражаны савецкай турэмнай ідэалогіяй, пачынаюць шукаць спосабы ўзбагачэння любымі сродкамі за кошт тых, хто побач. Так з’яўляецца і распаўсюджваецца тэрмін “Лох”. Гэты тэрмін разыходзіцца, перш за ўсё, па Расіі, але мае месца яго выкарыстанне і на Украіне, і на Беларусі. Як паказаў час асабліва замацаваўся ён у Расіі і на паўднева-усходзе Украіны, то бок там, дзе насельніцтва найбольш засвоіла і прыняла свавецкую турэмную ідэалогію, праўда цяпер, калі Саюза ўжо не існуе, мабыць трэба казаць савецка-расійская турэмная ідэалогія. Зараз у Беларусі слова “лох” ужо амаль не пачуеш нават ад так званых гопнікаў, хаця гадоў 7-10 таму яно выкарыстоўвалася значна часцей. Свядомасць чалавека, які знаходзіцца пад уплывам такой ідэалогіі “лохаразмерная”. “Лох” – гэта чалавек, якога лёгка падмануць, які з’яўляецца лёгкай здабычай махляроў. “Если

слышен денег шелест — значит лох пошёл на нерест!” – сучасная расійская прымаўка.

Шырока распаўсюджаны тэрмін “лох”, адпавядае вузкаспецыяльнаму турэмна-крымінальнаму слову “фраер”. Фраер - чалавек, які не мае ніякага дачынення да “блатнога” асяроддзя, чужы ў крымінальным свеце. Таксама гэтым словам у колах блізкіх да крыміналу могуць пазначаць любога чалавека, які модна апрануты, а таксама патэнцыйную ахвяру злачынства, неспрактыкаванага, наіўнага чалавека. Але выкарыстоўваць слова “фраер” могуць толькі людзі з крымінальнага свету. Напэўна таму ў расійскім грамадстве прыжылося слова “лох”. ( У красавіку гэтага году на сайце “Нашай Нівы” быў размешчаны артыкул пад назвай “Меркель: Тыя, хто не аказвае супраціву, церпяць паразу”, у ім у ліку іншага было адзначана: “Шмат гадоў нямецкі канцлер Ангела Меркель спрабавала зразумець прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Але анексія Крыма стала нечаканасцю нават для яе… Часам Ангела Меркель пераглядае запісы тэлевізійных выступаў Пуціна. Яна вывучае мову цела і ўважліва ўслухоўваецца ў арыгінальную рускую мову.” Далей гаворыцца, што Меркель лічыць, што “постсавецкая Расія выступае ў вобразе «пачаткоўца» у класе, які спачатку спрабуе інтэгравацца і прыстасавацца да Захаду, сучаснасці і дэмакратыі. Але калі ў яго не атрымліваецца, ён становіцца ўпартым і агрэсіўным”. Насамрэч усё значна прасцей: еўрапейскія палітыкі для Пуціна – фраера, лохі.)

Пасля развалу Саюзу большасць людзей, якія знаходзіліся ў палоне савецка-расійскіх крымінальных схем мыслення, кінуліся шукаць не суграмадзян і аднадумцаў, а лохаў, тых на кім можна “срубить “легких бабок”. Такая ментальнасць дзеліць людзей на лохаў і не лохаў. Той хто роўны, альбо вышэйшы на сацыяльнай лесвіцы той лохам не з’яўляецца, лохі тыя, хто ніжэй. Так для пераважнай большасці масквічоў за МКАДам жывуць лохі.

Вось такія вынікі меў грандыёзны камуністычны эксперымент. Камуністычная ідэалогія не прынесла нічога станоўчага ў маральным плане народу. Усе пазітыўныя каштоўнасці былі запазычаны імі ў дарэвалюцыйным грамадстве, а што да новых, прынесеных з рэвалюцыяй, то яны былі спрэс штучныя і хлуслівыя. І народ адносна хутка разабраўся ў гэтым. Дарэчы, тыя мутацыі ў сістэме каштоўнасцей, накшталт нясунства і сачкавання, не заўсёды былі цалкам адмоўнымі з’явамі, часта такія мутацыі былі адказам грамадства на спробы дзяржавы ва ўсім навязаць сваю волю асобнаму чалавеку. Такім абходным манеўрам і, магчыма, негатыўным чынам, грамадства яднался і выступала супраць таталітарызму. Пад канец існавання саюзу дэклараваныя камуністычныя каштоўнасці былі амаль поўнасцю дэнамінаваныя. Ніхто ўжо не верыў у светлую будучыню, над ідэяй пабудовы справядлівага

грамадства была створана безліч анекдотаў. Партыйная наменклатура збольшага займалася тым, што забяспечвала свой дастатак праз карупцыю. А тым часам савецкая эканамічная мадэль вычарпала сябе і эканамічны крызіс другой паловы 80-х прыскорыў крах СССР.

Пасля развалу жыхары былой імперыі з ліку тых, хто жадаў дэмакратычных пераменаў, адчувалі ўздым і цешылі сябе надзеяй, што хутка можна будзе пабудаваць сапраўды справядлівае грамадства заснаванае на прынцыпах роўнасці перад законам, свабоды слова і выбарнасці ўлады. Але калі павярхоўныя зрухі першых год пасля распаду падмацоўвалі такія надзеі, то больш глыбінныя з'явы, якія не маглі быць адразу заўважнымі, вельмі супярэчылі такім спадзяванням. Такой з'явай, на якую спачатку мала хто зважаў, было тое, што ўладная эліта ў Расіі, а таксама і ў большасці іншых былых рэспубліках у аснове сваёй засталася той жа самай. Часткова былыя партыйныя і камсамольскія бонзы перайшлі ў вялікі бізнэс, злачынна прыватызаваўшы былыя дзяржаўныя прадпрыемствы, часткова пераабраліся ў новую структуру ўлады. Адмыслоўцы сцвярджаюць, што ў 2000-м годзе ў расійскай уладзе знаходзілася каля 70-ці адсоткаў савецкай наменклатуры. Ужо ў 1993-м годзе, калі быў расстраляны расійскі парламент, прэзідэнт Ельцын ажыццявіў шэраг канстытуцыйных рэформ, якія дапамаглі яму сканцэнтраваць вялікую ўладу ў сваіх руках. Шмат хто з аналітыкаў лічыць, што тыя рэформы сталі перадумовай прыходу да ўлады Пуціна. Па вялікаму рахунку дэмакратыі ў Расіі і не было, была яе падманлівая цень.

Пасля распаду Саюзу новастворанныя суверэнныя дзяржавы пачалі жыць у новай рэчаіснасці. Пачаўся працэс фарміравання нацыянальных асаблівасцей. Дакладней не пачаўся, а працягнуўся, ён быў прыпынены савецкай сістэмай. Зараз у грамадствах Беларусі, Украіны і Расіі можна заўважыць значныя разыходжанні, якія на пачатку 90-х не былі такімі заўважнымі. Здавалася, што ўсе хадзілі ў савецкія школы вучылі адну і тую ж гісторыю, і вось так адносна хутка выявіліся нацыянальныя рысы кожнага народа, якія даследчык можа зафіксаваць. Напрыклад у параўнанні з расіянамі беларусы не ўхваляюць асобу Сталіна. Калі ў Расіі Сталін па сваёй ролі і станоўчай значнасці займае першыя месцы ў рэйтынгах, то на Беларусі недзе пятнаццатае. Таксама беларусы не імкнуцца некуды ўлезці з сваімі войскамі, мілітарызм не з'яўляецца нацыянальнай рысай. Яно і зразумела. Беларусам не ўласціва месіянства і нацыяналістычная гігантаманія. Як толькі чалавек усведамляе сябе беларусам, для яго адразу лагічна знікаюць падставы для варожых адносін да суседзяў, бо беларус як прадстаўнік, нявялікай нацыі, натуральным чынам уяўляе сябе нароўні з суседнімі народамі. А ў расіян у адрозненні ад нас застаюцца моцныя

імперскія комплексы, якія базуюцца на ўпэўненасці ў сваёй перавазе над іншымі народамі.

Шмат можна прывесці прыкладаў розных нацыянальных асаблівасцей у расіян, беларусаў і ўкраінцаў, але хацелася б спыніцца на адносінах да ўлады. На сённяшні дзень можна канстатаваць, што ўкраінцы найбольш свабодна і крытычна ставяцца да сваёй улады. Некаторыя нават праводзяць аналогіі з казацкай вольніцай Запарожскай Сечы, дзе гетманы абіраліся на некалькі месяцаў, а потым хутка зрыналіся, пры чым часам развітваючыся з жыццём. Што да Расіі і Беларусі, то можа падацца, што адносіны да ўлады прыкладна аднолькавыя – цярплівыя. Але гэтыя інфантыльнасць расце з розных каранёў: на Беларусі ўладу церпяць, таму, што яе ўспрымаюць як непазбежнае зло. “Быў бы хамут, а шыя знойдзецца,” – так кажа народная мудрасць, і падобных ёй у беларускім фальклоры шмат. За апошнія 200-250 год беларусы часта цярпелі паразы ў справе пабудовы нацыянальнай дзяржавы. Хаця змаганне было напружаным і крывавым. У расіян лаяльныя адносіны да ўлады заснаваныя на глыбокім недаверы да чалавечай асобы. З даўніх часоў на працягу сотняў гадоў улада ў Расіі культывавала гэты комплекс. Змест яго прыкладна наступны: кожны чалавек з’яўляецца халопам, хлусам, злодзеям, таму неабходна, каб існавала моцная рука, гаспадзін, цар, які будзе трымаць усіх у неабходным парадку. Я не збіраюся ідэалізаваць беларусаў у нас ёсць свае недахопы, але справа тут вядзецца аб агрэсіўных настроях у расійскім грамадстве, якую можа прасачыць па тым жа сацыялагічным апытанням, калі каму не стае асабістых назіранняў.

Як сталася магчыма, каб на працягу такога невялікага часу, на дадзены момант 23 гады, так моцна праявіліся нашыя нацыянальныя асаблівасці, так, што ў кожнага народа з’явіліся вартасці і недахопы ўласцівыя толькі яму. Справа мабыць у тым, што яны нікуды не знікалі, але былі прыхаваны пад упакоўкай “савецкі чалавек”, вынаходніцтва, якое анансаваў яшчэ Хрушчоў. Але савецкай нацыянальнасці ў прыродзе не існавала, нягледзячы нават на моцную ідэалагічную апрацоўку савецкіх грамадзян.

У кожнага чалавека ў свядомасці існуе нешта падобнае мапе, якую можна было б назваць ментальна-псіхалагічнай мапай. Гэта набор базавых каштоўнасцей і антыкаштоўнасцей з праграмай стаўлення і дзеяння адносна іх. Гэтая мапа фармуецца з самага ранняга дзяцінства, пачынаючы з першага знаёмства з навакольным асяроддзем. Замацоўвацца гэтая карта будзе рознымі спосабамі, найперш сістэма каштоўнасцей і рэакцый на пэўныя падзеі, здарэнні фармуюцца ў сям’і, потым гэта будзе бліжэйшая супольнасць, суседні, клас, калектыў, і ўжо потым дзяржаўная ідэалогія. Ментальна-псіхалагічная карта будзе фармавацца ўсё

жыццё, але працэс гэты вельмі марудны, значныя, рэзкія змены не магчымыя. У кожнай сталай супольнасці такая карта мае свае асаблівасці, у жыхароў трох суседніх вёсак гэтая карта будзе мець адрозненні, хай сабе і невялікія. Гэта абумоўлена непазбежнай суб'ектыўнасцю кожнага жыхара гэтых вёсак, яго чалавекаразмернасцю, чалавек у сілу сваёй фізічнай і інтэлектуальнай абмежаванасці, а таксама індывідуальных асаблівасцей не можа аднолькава ўспрымаць прыроднае і сацыяльнае асяроддзе. На ўзроўні народаў адрозненні будуць больш заўважнымі. Ментальна-псіхалагічная карта народаў фармуецца стагоддзямі, гэты працэс не заўсёды навідавоку, як не заўсёды навідавоку псіхалагічнае сталенне індывіда, якое адбываецца ў цесным суіснаванні з іншымі. Псіхолагі ведаюць, што калі індывід у дзяцінстве выхоўваўся ў ненармальных абставінах, напрыклад сярод дзікіх жывёл, то патрапіўшы ў чалавечую супольнасць шмат чаго ён ужо не здолее засвоіць, бо шмат якія навыкі замацоўваюцца толькі на пэўным этапе развіцця. Людзі з пакалення ў пакаленне не заўважна для сябе перадаюць вопыт, які цягнецца з даўгіх вякоў. У розных грамадствах рэакцыя на пэўныя паводзіны будзе рознай. Так недзе нахабныя паводзіны будуць рэзка спынены навакольнымі і асоба, якая іх справакавала, будзе асуджана на негатыўнае стаўленне, а недзе такія паводзіны дадуць плён і выклічуць павагу ў пэўнай часткі супольнасці, тым самым, замацоўваючы такія дзеянні ў ментальна-псіхалагічнай мапе.

Вяртаючыся да праблемы адносін беларусаў да ўлады хочацца прыгадаць падзеі 1917 года. Тут трэба адзначыць што бальшавіцкі пераварот быў для беларусаў і расіян даволі розны з'явай. У Расіі бальшасць насельніцтва, перш за ўсё ў гарадах, прыняла і падтрымала савецкую ўладу нягледзячы на супрацьстаянне пэўных колаў, класаў. Што да беларусаў, то ў большасці яны ўспрынялі саветы, як усё тое ж непазбежнае зло, якое змяніла ранейшае зло. У нас была легітымная Рада БНР, у адрозненні ад штучнага кіраўніцтва савецкай Беларусі, быў гераічны супраціў, быў Слуцкі збройны чын, была армія Булах-Булаховіча, было менш арганізаванае супрацьстаянне ў кожным раёне Беларусі. Але па розных прычынах незалежная дэмакратычная Беларусь паўстаць не змагла. Пасля кароткага перыяду беларусізацыі ў 20-я гады пачалася паслядоўная русіфікацыя. Што ж сталася з ментальна-псіхалагічнай картай беларусаў? Яна, не маючы магчымасці на паўнавартаснае нацыянальнае развіццё, закансервавалася і адступіла яшчэ далей - да мяжаў паселішчаў і сям'і. Напэўна ні для каго не будзе адкрыццём, што беларусы ў параўнанні з расіянамі менш мадэрновыя, больш кансерватыўныя і "вясковыя". Гэта сталася магчымым дзякуючы захаванню асноўных ментальна-псіхалагічных установак у сям'і. Так, у выніку русіфікацыі, у выніку знішчэння беларускай

гісторыі, шмат, чаго было згублена і забыта ў плане нацыянальных каштоўнасцей. Але як толькі ціск на беларускую культуру аслабеў, як толькі была створана суверэнная Беларусь, і ўвогуле, як толькі склаліся больш менш спрыяльныя ўмовы, ментальна-псіхалагічныя асаблівасці пачалі разгортвацца і паступова ўсведамляцца ўсё большай колькасцю людзей.

Хаця не ўсе хочуць бачыць нацыянальныя асаблівасці народаў Беларусі, Украіны, Расіі. Так сярод расіян распаўсюджана думка, што чысціня на вуліцах і плошчах беларускіх гарадоў і мястэчак, адносна спакойная крымінальная абстаноўка, засеяныя палі і гароды гэта заслуга выключна Лукашэнкі. Зразумела гэта зусім не так. Падставай для такіх развражанняў ёсць усё той жа імперскі комплекс, згодна якому з аднаго боку, маўляў, народу патрэбен бізун, каб быў парадак, а з іншага боку свядомае ці падсвядомае пачуццё таго, што калі прызнаць гэтыя з'явы як асаблівасці, якія ўласцівыя беларускаму народу, то прыйдзецца прызнаць, што мы маем адрозненні, прычым некаторыя з іх у лепшы бок, але гэтага не можа дазволіць сабе расійская імперская свядомасць.

Але вернемся да Расіі. Невялікі перыяд свабоды слова і больш менш дэмакратычных выбараў змяніўся новым этапам рэакцыі, якая зноў узняла савецкія імперскія лозунгі і памкненні. Гэта можна досыць выразна прасачыць па развіццю поп-культуры ў Расіі. Так напрыканцы 80-х у першай палове 90-х роля НКВД-КГБ у расійскіх фільмах, песнях, мастацкай літаратуры ацэньвалася і дэманстравалася негатыўна. А з канца дзевяностых пачатку нулявых пачалося пераасэнсаванне савецкай спадчыны. Чэкіст стаў паказвацца ў асноўным як станоўчы персанаж, з рознымі агаворкамі, але ўсё ж такі пазітыўна. За апошнія 15 год кардынальным чынам змяніўся змест гумарыстычных перадач і праектаў. На змену самакрытычнаму погляду на сябе, які неабходны як асобнаму чалавеку, так і любой супольнасці, прыйшоў вялікадзяржаўны шавіністычны, накіраваны на прадстаўнікоў іншых народаў гумар, які пастаянна мяжуе са знявагай. Адносіны да тэрарыстычных атак у Расіі, якія прыйшліся на перыяд прыходу да ўлады Пуціна, таксама досыць красамоўна дэманструюць паварот у расійскім грамадстве – расіяне даволі лёгка паверылі ў чачэнскі след і амаль поўнасцю згадзіліся з знішчэннем Чачні. Чаго не скажаш аб беларусах, якія ў большасці сваёй не паверылі ў афіцыйную версію ўлады ў справе аб тэрарыстычным акце ў мінскім метро.

Гэты савецка-імперскі рэванш пачаўся даўно, але найбольш яскрава стаў праяўляцца ў апошнія гады, калі Расія, дзякуючы высокім коштам на энергарэсурсы, ачуняла ад эканамічнага крызісу. Адным з выразных прыкладаў гэтага рэваншу ўнутры расійскага грамадства можа паслужыць справа Магніцкага. Сяргей Магніцкі

займаўся юрыдычнай дзейнасцю ў сферы падаткаў і аўдыту. Робячы гэту справу, ён выйшаў на карупцыйныя схемы, да якіх мелі дачыненне супрацоўнікі расійскіх сілавых структур, ланцужок вёў на самыя вышэйшыя пасады ў расійскім кіраўніцтве. Але праваахоўныя ворганы не далі гэтай справе законны ход, наадварот, сам Магніцкі быў абвінавачаны ў нявыплаце падаткаў і змешчаны ў СІЗА. У 2009 годзе пасля 11 месяцаў папярэдняга зняволення Магніцкі памер у бальніцы следчага ізалятара. Смерць здарылася пры падазроных абставінах, у правядзенні паўторнага судова-медыцынскага абследавання па просьбе сваякоў было адмоўлена. У адказ на гэтае жудаснае здарэнне ЗША прынялі санкцыі (“закон Магніцкага”), якія забаранялі ўезд на сваю тэрыторыю расійскім чыноўнікам, якія мелі дачыненне да справы Магніцкага, ЕЗ таксама далучыўся да гэтых санкцый. Здавалася б расійская ўлада павінна была падзякаваць і Магніцкаму, і Захаду за барацьбу з карупцыяй, але не. На “закон Магніцкага” Расія ўводзіць санкцыі ў адказ – “антымагніцкі закон” – паводле якога ў Расію забараняўся ўезд пэўных катэгорый грамадзян ЗША, а таксама забаранялася ўсынаўленне расійскіх дзяцей грамадзянам ЗША. У сувязі з апошнім гэты закон часам называюць “законам падляцоў”. На гэтым прыкладзе добра бачна, што не прыярытэтам закона кіраваліся дэпутаты абедзвюх палат расійскага парламента, якія прынялі гэты закон, а толькі пачуццём помсты, галоўным матывам было як мага болей нашкодзіць Амерыцы. Галоўны аргумент – мы Расія і нам усё можна. І гэтыя дзеянні былі падтрыманы большасцю расійскага народа! То бок, пераважная большасць расіян ужо ў гэтым выпадку палічыла, што ў адстойванні сваіх карысных інтарэсаў Расія мае права напляваць на законы і маральныя нормы, і рабіць усё што пажадае з тае толькі прычыны, што яна Расія.

Наогул, шмат прыкладаў можна прывесці для таго каб паказаць як разгортваліся і культываваліся рэсентэментальныя комплексы расійскага народу за апошнія 10-15 год. Комплексы, якія заснаваны на пагардзе да простага чалавека і нізкапаклонствам перад уладай тырана, а таксама на пошуку ворага, падкопамі якога можна апраўдаць любыя асабістыя памылкі.

Калі паслухаць выказванні расійскіх чыноўнікаў, дэпутатаў за апошнія гады, асабліва ад пачатку ўкраінскай рэвалюцыі, на фоне ідэалагічнага супрацьстаяння з Захадам і нежадання дазволіць украінцам зрабіць свой выбар, то можна адчуць сябе ў нейкім сюрэальным, фантомным свеце. Так дэпутат расійскай Дзярждумы Фёдараў на поўным сур’ёзе кажа, што песні вядомага, культавага расійскага рок-музыкі В. Цоя пісаліся ў ЦРУ з мэтай разваліць СССР. А Сяргей Нарышкін, спікер Дзярждумы, прапанаваў пісаць абрэвіятуры “ЗША” і “ЕЗ” з маленькай літары, бо, маўляў, “не дараслі да павагі расійскай”. Дэпутат Дзярждумы Расіі Аляксей Дзідзенка ў прамым эфіры расійскай службы “Радыё Свабода” на конт увядзення забароны ўсынаўлення

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

амерыканцам расійскіх дзяцей заявіў наступнае: “Больш за ўсё рускіх усынаўляюць амерыканцы і робяць гэта, відавочна, з нянавісці. Большая частка можа мець дзяцей і маюць дзяцей, бяруць другога, трэцяга, каб здзекавацца з-за нянавісці да Расійскай Федэрацыі, каб адчуваць сваю перавагу.” Слухаючы часам расійскіх дэпутатаў, палітолагаў, аналітыкаў, якія сёння падтрымліваюць афіцыйны курс Крамля на акупацыю Крыма, гібрыдную вайну ва Украіне, ціск на грамадзянскую супольнасць, пераслед палітычных апанентаў мяне не пакідала ўражанне, што пры аргуметацыі сваёй пазіцыі гэтым людзям нечага дужа не хапае, ім не хапае магчымасці паставіць пытанне пра правы асобнага чалавека на свае правы. Ім бы вельмі дапамагло, калі б яны на папрокі аб невыкананні правоў чалавека ў Расіі, маглі б адказаць прыкладна наступным чынам: “Правы якога чалавека? Гэтага чалавека? Хіба гэта чалавек?!”

Усё гэта сімптаматычна, тая велізарная падтрымка, якой карыстаецца агрэсіўная пуцінская палітыка ў дачыненні да суседніх дзяржаў і ў дачыненні да сваіх апанентаў, не вырасла на пустым месцы. Рэсентыментальныя комплексы, на якія паставіў пуцінскі рэжым, выспявалі і падтрымліваліся ў ментальна-псіхалагічнай мапе расійскага народа. Калі верыць апытанням, расіяне гатовы горш жыць, але каб захопніцкія планы працягваліся і надалей. Якія наступствы для нас беларусаў і ўкраінцаў прынясуць такія настроі расійскага грамадства? Змогуць яны пайсці на спад, паступова ўлагоджваючыся? Ці яны вынесуць на паверхню новых цемрашалаў яшчэ больш небяспечных за Пуціна?

Хочацца верыць, што рацыянальная частка грамадства, якая зараз апынулася ў меншасці, пераможа ресентыментальныя памкненні, і большаць, усвядоміўшы сапраўдны стан рэчаў, і ўсю тую бяду, што прынесла Украіне, а ў перспектыве і Расіі, пуцінская палітыка, далучыцца да тых, хто выступае супраць расійскай агрэсіі. Хочацца верыць, што рускі народ, як у тое верыў Бярдзяеў, праявіць свае лепшыя якасці, стане сапраўды годным павагі. І, перастаўшы навязваць сваю волю суседзям, пакажа прыклад свабоднага і справядлівага грамадства.

Але пакуль што ідзе так званая гібрыдная вайна Расіі з Украінай. Руская ідэя, пра якую пісаў Бярдзяеў, сёння ператварылася ў нацысцкую канцэпцыю “Рускага свету”, якую агучыў Пуцін. Бярдзяеў пісаў: “Рускі народ, па сваёй вечнай ідэі, не любіць уладкаванне гэтай зямной дзяржавы і скіраваны да Гораду Будучыні, да Новага Іерусаліму, але Новы Іерусалім не адарваны ад велізарнай рускай зямлі, ён з ёй звязаны, і яна ў яго ўвойдзе. Для Новага Іерусаліма неабходна кам’юнатарнасць, братэрства людзей, і для гэтага неабходна яшчэ перажыць эпоху Духа Святога, у якой будзе новае адкрыццё аб грамадстве. У Расіі гэта рыхтуюць”.

Але гледзячы на сённяшнія падзеі, на тыя запалохванні, якія гучаць ад расійскіх кіраўнікоў, што яны ператвораць Амерыку ў ядзерны попел, пра намеры лакальнага выкарыстання ядзернай зброі, складваецца ўражанне, што не эпоху Духа Святога рыхтуюць сёння ў Расіі. Сама руская ідэя палягае ў наш час у наступным: захапіць як мага больш тэрыторыі, стаць манапалістамі ў пастаўцы энергарэсурсаў, і выкарыстоўваючы энергетычны і ваенны шантаж, дабівацца сваіх мэтаў на міждзяржаўным узроўні, не мяняючыся знутры. Расія сёння гэта сусветны рэкецір, які ажыццяўляе рэйдарскія захопы суседніх тэрыторый.

Бярдзяеў у пачатку “Рускай ідэі” піша: “Мяне будзе цікавіць не столькі пытанне пра тое, чым эмпірычна была Расія, колькі пытанне аб тым, што задумаў Творца аб Расіі, разумовы вобраз рускага народа, яго ідэя.” Што ж кожны філосаф сам вольны выбіраць свае тэмы і накірункі іх развіцця. Але нас, тых, хто жыве сёння тут, цікавіць эмпірычны матэрыял не менш за метафізічныя развагі, бо справа тычацца самой нашай магчымасці быць. І калі ў працяг тэмы звярнуцца ізноў да расійскіх даследчыкаў, то мне хацелася б прывесці словы Л. Гудкова, вядомага расійскага сацыёлага. У перадачы “Лицом к событию” расійскай службы “Радыё свабода” ён наступным чынам ахарактарызаваў той велізарны ўзровень псэўдапатрыятызму, што захліснуў сённяшняю Расію: “Мне здаецца, цяперашні ўздым патрыятызму, як бы патрыятызму, нельга растлумачыць без адчування мацнейшага масіва чалавечага прыніжэння, пастаяннага пачуцця дыскрымінацыі, падаўлення, залежнасці ад улады, ад самавольства, бездапаможнасці і нянавісці да ўлады, непавагі і нянавісці. Падкрэсліваю - гэта вельмі моцны патэнцыял. І адначасова, калі ўлада загаварыла на мове калектыўнага адзінства, такога гераічнага варварства, абароны сваіх, то гэта спрацавала як кампенсатарны механізм. Нарэшце ўлада дзейнічала ў вачах гэтай большасці як павінна, не маральна, а як трэба, “абараняючы сваіх”.

Такім чынам, узровень агрэсіі да іншых нацыянальнасцяў, перш за ўсё да суседніх, можна назіраць, можна фіксаваць не галаслоўна, а на канкрэтным матэрыяле, які можна замераць навуковымі метадамі. Карані гэтых рэсентыментальных комплексаў знаходзяцца ў глыбіні стагоддзяў, з якіх вырастаюць народы, як комплексы дарослых людзей караняцца ў дзяцінстве і юнацтве. І гэта трэба ўлічваць. Мала прамаўляць як мантру, што патрэбны мір, згода, узаемаразуменне. Я не думаю, што Пуцін спыніцца па сваёй волі, ён ужо не можа спыніцца, тая хваля нянавісці, якую ён асядлаў можа накрыць яго самога. Трэба разумець, што “Рускі свет”, які прапануе сучасная расійская прапаганда суседнім народам зможа трымацца толькі на дыктатуры, мілітарызме, рэпрэсіях і падаўленні свабоды слова. Людзям, якія хочуць жыць у незалежных дэмакратычных краінах, павінны ведаць пра гэта і сумесна

супрацьстаяць умацаванню дыктатуры. Найперш гэта тычацца Украіны, Беларусі і Расіі, бо гэта небяспека, перш за ўсё, для нашых краін.

**Aljaksandr Zgerski: WHAT BOTHERS RUSSIA OR THE CULTIVATION OF RESSENTIMENT**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2014, issue 8, pp. 16-35)*

It is discussed the reasons why the majority of Russian population supports the Crimea annexation and the war in the East of Ukraine provoked by Putin's government. Why Russians think that the only fascists live in Ukraine and the whole world wants Russia misfortune?

Author analyses this behavior from the point of view of "ressentiment". A ressentiment is the term of philosophy which defines the morality of slaves, negative human complexes based on envy towards the more powerful and successful ones, and the cultivation of image of the enemy. Such system of human values can't create anything of his own while destroying the value system of the enemy. Ressentiment morality opposes the noble morality of freedom-loving person.

Russia began the aggression in the neighboring country by rising, using and at the same time cultivating a large resentment chauvinistic complex which dreamt until the time in the mysterious Russian soul. Going back to history the appearance of that complex might be observed during the reign of Ivan III in the end of 15 century, Ivan IV in the second half of 16 century, and later. As Karl Marx wrote, "Muscovy was raised and grew up in a horrible and infamous school of the Mongolian slavery. It became so strong due to absorption of virtuosa art of slavery. Even after its release from Mongols, Muscovy continued to play its traditional role of servant who became the owner. Then Peter the Great combined the political art of Mongolian slave with the proud aspirations of the Mongol ruler, to whom Genghis Khan bequeathed to carry out his plan to conquer the world".

Such sort of mentality continued then after revolution and how it is reasonable indicated by Berdyaev once again won the "mass". It appears it was directed by ressentimental slogans of Bolsheviks: all the land to the peasants, factories to workers, and peace to the nations. From other side, according to slave morality there were found the enemies, the aristocracy, the bourgeoisie, kulaks, intellectuals, imperialists and so on. In general, the enemies were needed for the Soviet Union to his existence as well. Discussing the morality in the Soviet Union the author referred to the experience of Russian writer Shalamov who spent many years in the GULAG. It was clear that in a certain extent prison terms and orders, together with prisoners who have served their term, came gradually in a civil society. Over the hundreds of years, the authorities in Russia cultivated the complex of a person which is lackey, liar, thief, and as a consequence that's why it is necessary to have a strong hand, Lord, tsar who will keep everyone in the correct order.

However, the mentality of Russians and mentality of people from other post-soviet countries, in particular Belarusians and Ukrainians, are different. Mental-psychological map of nations formed over the centuries, this process is not always in sight. Over the past 200-250 years Belarusians often suffered defeats in nation-state building. Although not everyone want to see the national peculiarities of the peoples of Belarus, Ukraine and Russia. Again, there are a lot of examples to show how ressentimental complexes of Russian people were cultured and then deployed towards their neighbours, in particular Belarus and Ukraine, during the last 10-15 years. It is necessary to understand that the "Russian World" that Russian propaganda offers to modern neighboring nations will hold only a dictatorship, militarism, repression and suppression of freedom. People who want to live in independent democratic countries should be aware of this and stand together against the strengthening of the dictatorship.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Пётра Мурзёнак: В ВОЛОГДЕ! – ДЗЕ?!**

Слухаючы песьню “ВОЛОГДА”, уключанаю ў рэпертуар ансамбля “Песьняры” пад ціскам Міністэрства культуры як твор савецкіх аўтараў і стаўшай папулярнай у яго выкананьні, у мяне заўжды ўзнікала пытаньне: ну няхай было і будзе добра ў Волагдзе, але чаму беларускія песьняры замест “Вот потому-то мила мне всегда, Вологда-гда-гда-гда, Вологда -гда” не сьпявалі б, да прыкладу: “Дзе ж ты мая сінявокая, дзе, ў Віцебску-дзе-дзе-дзе, дзе ж яшчэ дзе” ... ці ў Горадні-дзе, ці ў Берасьці-дзе ...? Гэта быў 1976 год і прыклад з “Вологдой” сьведчыць аб тым, як вырашалася нацыянальная палітыка ў савецкай дзяржаве.

Аднак Саюз разваліўся, Беларусь атрымала незалежнасьць, а на першым месьце ў дзяржаўнай падтрымцы песеннай творчасьці зноў перавага аддаецца рускамоўнай песьні (напрыклад, “Славянский базар” ). Нічога не зьмянілася з савецкіх часоў. Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам на пачатку адраджэньня на 10-гадовы перыяд (1990), быў сьвядома забыты новаабраным кіраўніком дзяржавы і яго пасьлядоўнікамі. Больш таго, пайшоў уціск на ўсё беларускае. Частка беларускіх паэтаў і пісьменнікаў перайшла на службу да дэнацыяльнага ўрада (ці то па прывычцы, ці то па кепскаму веданьню роднай мовы). У школах Мінска ня больш 2% вучняў атрымоўваюць веды на роднай мове. Якую будучыню будзе мець беларуская нацыя пры такім развіцьці?

Зараз маючы перад вачыма вайну паміж Украінай і Расіяй і магчымасьць паўтарэньня падобнага сцэнару для Беларусі, раптам, час ад часу, калі гэта вымушаюць зьнешнія абставіны, загаварылі па беларуску Лукашэнка, Мясніковіч, Тозік. Відавочна, што гэтыя тактычныя моўныя практыкаваньні, якія можна назіраць толькі пры пагаршэньні адносінаў з Расіяй, не маюць дачыненьня да сапраўднага нацыянальнага будаўніцтва. Гульні з Расіяй працягваюцца і, як відаць, кіраўнікоў краіны яшчэ не прыціснула так, каб яны ў поўнай меры пачалі ўжываць родную мову ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй дзяржавы – нараўне з рускай. Але калі яны сыйдуць на пенсію, хто адкажа за правал моўнай і нацыянальнай палітыкі?

Беларусь яшчэ мае шанец для будаўніцтва сапраўднай нацыянальнай дзяржавы, па-за межамі Саюза Беларусі і Расіі. Але час вельмі абмежаваны. Аб гэтым сьведчаць прыклады нядаўніх рэферэндумаў аб незалежнасьці - Квебеку ад Канады (1995) і Шатландыі ад Вялікабраніі (2014). Правінцыя Квебэк (былая Новая Францыя) быў захоплены брытанцамі ў 1763 годзе, а Шатландыя падпісала дамову з Англіяй аб

утварэньні Каралеўства Вялікабрытаніі ў 1707 годзе (хаця супраціў аб’яднаньню працягваўся да 1746 г.). Рэферэндумы праведзеныя у Квебеку і Шатландыі праз 251 год і 307 гадоў пасьля аб’яднаньня-захопу далі наступныя вынікі – 51% і 55.7% апрошаных, адпаведна, не падтрымалі ідэю аб незалежнасьці. І гэта пры тым, што сучасныя урады і Канады, і Вялікабрытаніі падтрымліваюць нацыянальную ідэнтычнасьць удзельнікаў рэферэндумаў (французкая мова – дзяржаўная ў Канадзе нараўне з англійскай і нават мае перавагу пры прыёме на працу, у Шатландыі дзейнічае свой парламент і ў хадзе адрозныя ад агульнадзяржаўных фунты стэрлінгаў). Польшча і Літва атрымалі незалежнасьць ад Расіі праз амаль 120 гадоў пасьля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай (1794). Беларусь жа да гэтага часу не скарыстала дадзеныя ёй магчымасьці ў атрыманьні поўнай незалежнасьці ад усходняга суседа, а прайшло ўжо 220 гадоў пасьля падпарадкаваньня беларусаў Расійскай імперыі. Можна меркаваць, калі праводзіць гістарычныя паралелі з Квебекам і Шатландыяй, што краіна мае для нацыянальнага будаўніцтва яшчэ 30-40 год, бо калі сучасны стан рэчаў ня зьменіцца, то ня будзе з кім пра гэта нават размаўляць - беларусы стануць часткай “русского мира”. Перспектыва статуса роднай мовы як дыялекта значна вырасьце – астраханский, вологодский, костромской ... белорусский диалекты.

Малаверагодна, што нацыянальная палітыка ўраду можа зьмяніцца; узяць хаця б нядаўнюю заяву сп. Мясніковіча аб аб’яднаньні нацыянальных плацёжных сістэм Беларусі і Расіі. Дадайце ўдзел Беларусі ў наддзяржаўных саюзах, наяўнасьць ваенных расісйскіх баз у краіне і г.д. Хаця абсалютна нельга выключыць магчымасьць рэзкіх рухаў аднаго чалавека, ад якога залежыць прыняцьце ўсіх урадавых рашэньняў. Аднак, гэтыя рухі калі і былі, то толькі вымушанымі, псеўданацыянальнымі. Бо сапраўднай дзяржаўнай падтрымкі роднай мовы да гэтага часу няма, а без мовы – няма нацыі.

Антынацыянальны рэферэндум аб дзьвюх дзяржаўных мовах і аб нацыянальных сімвалах (1995) паказаў, што нацыянальную ідэю падтрымлівалі ў той час 988.839 чалавек (калі разлічваць на 20.5 % галасоў грамадзян, якія былі супраць аднаўленьня дзяржаўнага сьцяга савецкіх часоў). Добра было б, каб антыбеларуская палітыка, праводзімая апошнія 20 гадоў, ня зьменшыла хаця б гэту колькасьць сьвядома арыентаваных людзей. Апошнія апытаньні, праведзеныя лабараторыяй Вардамацкага, паказваюць, што амаль 2\3 беларусаў з’яўляюцца прыхільнікамі яднаньня з Расіяй.

Калі казаць пра зьнешні фактар, то зьмяншэньне ўплыву Расіі заўжды выклікала пад’ём нацыянальнага руху на Беларусі (як і на іншых акраінах імперыі) і было б

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

жаданым. Але з другога боку, зьмены ў “Вологде”, якімі б ні былі важнымі для Беларусі, але б яны мелі толькі часовы эфект. Як паказалі падзеі на Украіне нават апазіцыйныя дзеячы ў Расіі выказваюць шавіністычныя пагляды ў адносінах да самастойнасьці Украіны, у пытаньнях Крыма і г.д. Што казаць пра астатніх. І гэта надоўга. Спадзеўкі каго-нібудзь на развал Расіі, зьмены там улады ці нават на падтрымку Расіі павінны быць адкінутыя. Па той прычыне, што Расія ніколі не прызнае самастойнага развіцьця як Украіны, так і Беларусі.

Дык усё ж такі, што можна дадаць аптымістычнага ў дачыненьні да перспектыўнага развіцьця нацыянальнай ідэі? Народ Беларусі амаль ніколі (ці ўвогуле ніколі) не вырашаў свайго нацыянальнага лёсу. Гэтым займаліся і працягваюць займацца прадстаўнікі нацыянальнай эліты, нават ва умовах “беларускага гета”. Аднак, трэба адзначыць, што 83.7% грамадзян лічуць сябе беларусамі. Менавіта гэты патэнцыял народа дагэтуль не выкарыстаны ў поўнай меры нацыянальнай элітай. Стаўка на ліберальныя каштоўнасьці і абарона рэлігійных ці дэмакратычных свабод не здымаюцца з павесткі дня, аднак не гэта будзе вырашальным як у зьмене кіраўніцтва краіны, так і ў трывалым і доўгатэрміновым будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы. Калі казаць пра ліберальныя ці дэмакратычныя каштоўнасьці, то, паводле многіх апытаньняў беларускае насельніцтва задавальняе цяперашні іх стан. Ставіць на першы план рэлігійныя свабоды - гэта значыць абмяжоўваць сябе, бо звыш як 40% беларусаў ня вeруць у Бога ці з’яўляюцца атэістамі. Такім чынам, можна меркаваць, што менавіта беларускасьць, якую яшчэ адчувае значная большасьць грамадзян краіны, з’яўляецца той глебай, якая будзе вызначальнай у рэалізацыі асноўных палажэньняў нацыянальнай ідэі і прывядзе да істотных зьмен у беларускім грамадстве.

Нацыянальная эліта працуе сёньня у цяжкіх умовах, у дадатак ня маючы адзінства ў сваіх радах. Чаго толькі варты абсурдныя дыскусіі аб магчымасьці развіцьця беларускай культуры ў рускамоўным асяроддзі. Тое ж самае можна казаць пра падрыхтоўку да чарговых прэзідэнцкіх выбараў, якая зноў пачалася са спробаў вызначыць адзінага кандыдата. Сімвалічнае вылучэньне кандыдатам у прэзідэнты беларускага афіцэра і чэснага чалавека Мікалая Статкевіча мае толькі маральныя асьпекты, а не магчымасьць практычнай рэалізацыі такой прапановы. Цяперашні сцэнарый вызначэньня адзінага кандыдата той самы, як і на папярэдніх выбарах, вынікі якіх вядомыя (2001, 2006, 2010). Аб’яднаньне з мэтай зьмены ўлады гэта важная мэта, аднак, цяжка ўявіць як будуць змагацца некаторыя арганізацыі і партыі, што ўваходзяць у кааліцыю, за нацыю і нацыянальныя інтарэсы, калі ва ўставах гэтых структур абсалютна адсутнічаюць палажэньні са словам нацыя?

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

З другога боку, удзел у выбарах, нават у сумніўных, і асьветніцкая праца толькі падчас іх правядзеньня, не можа быць дастатковай для вырашэньня нацыянальных праблем. Такой канспіратыўнай, рэвалюцыйнай партыі Леніна, якая перавярнула сьвет, у Беларусі няма - нават калі аб’яднаць разам усе існуючыя. Найлепшым выйсьцем застаецца стварэньне нацыянальнай платформы, якую б падрымалі рухі, партыі, арганізацыі, маючыя свае спецыфічныя мэты, падыходы і сродкі для іх рэалізацыі з наступным вызначэньнем лідэраў, якія былі б здольныя рэалізаваць ідэі такой платформы. Такая доўгатэрміновая асьветнікая праца павінна была б даўно ўжоісьці і працягвацца падчас чарговай выбарчай кампаніі. Казаць пра посьпех у будаўніцтве беларускай нацыянальнай дзяржавы можна будзе тады, калі зьмены ў сьвядомасьці людзей будуць заўважнымі не толькі ў Мінску, але і ў Віцебску, Горадні, Берасьці ...

*Артыкул апублікаваны на сайце “Хартыя 97”, 20 лістапада 2014 г.*

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Piotra Murzionak: IN VOLOGDA! – WHERE?!**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2014, issue 8, pp. 36-40)*

Soviet Union collapsed, Belarus gained independence, however, and as before the state prefers only Russian-language songs (look at "Slavic Bazaar". Nothing has changed since Soviet times. The language law, adopted by the Supreme Council at the beginning of independence movement for 10-year period (1990), was deliberately forgotten by the newly elected head of state and his followers. Moreover, the pressure went on all Belarusian. But when Lukashenka, Mjasnikovich, Tozik will be retired who will be responsible for the failure of native language and national policies?

If to conduct historical parallels with Quebec and Scotland (look at the recent referendums), Belarus has for nation-building only 30-40 years and if the current situation won't change, it will be nobody even to talk about Belarusian identity. It might be that Belarusians will be the part of the "Russian world". The prospect of the status for the native language as a dialect grows significantly - Astrakhan, Vologda, Kostroma ... Belarusian dialects. After all it is clear, without language there is no nation.

It should be noted that 83.7 citizens of Belarus consider themselves as Belarusians. This is a potency which still not fully utilized by the national elite. Liberal values and the protection of religious and democratic freedoms can not be removed from the agenda, but it can not be decisive in changing the leadership of the country, and in a durable and long-term nation-building. Only the main provisions of national idea might be crucial and will lead to significant changes in the society.

The current scenario of a single candidate definition is the same as in previous elections, the results of which are known (2001, 2006, and 2010). Association with the aim of regime change is an important goal; however, it is difficult to imagine how some organizations will fight national independence when some of the parties entering into a coalition have no words for the nation and national interests in their programs.

The best outcome in the current situation it would be to create a national platform supported by the movements, parties, organizations, and while each with its own specific objectives, approaches and tools, to determine the leaders who would be able to implement the ideas of that platform. It would be possible to say about success in the construction of the Belarusian national state when the change in people's minds will be visible not only in Minsk, but in Vitebsk, Grodno, Brest...

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

**Ірына Хадарэнка: НАЦЫЯ VS. ПРАФАНАЦЫЯ?**

Нягледзячы на тое, што мноства сучасных інтэлектуалаў любяць шпацыраваць па інфармацыйнай прасторы з хабермасаўскім транспарантам – “час постнацыянальнай ідэнтычнасці”, шэраг апошніх падзей у геапалітычнай сферы красамоўна даказвае адваротнае: здаваць у антыкварную краму гісторыі таямнічы куфэрак Пандоры з нацыяльнымі пытаннямі яшчэ вельмі рана. Спрэчкі пра сутнасць нацыянальнай ідэі, нацыянальнага адраджэння і нацыю як такую не толькі не згасаюць, але і значна абвастраюцца на фоне новых сацыяльных канфліктаў і крызісу мультыкультуралізму ў Еўропе. Натуральна, што гэтыя тэндэнцыі не абмінаюць Беларусь. І нават больш за тое – для беларусаў, як маладой, мадэрнай нацыі, што толькі набліжаецца да фіналізацыі працэсу свайго станаўлення, увесь спектр праблем самаідэнтыфікацыі ўяўляецца неабходным гармонам росту. Адмовіцца цяпер ад нацыянальнай самаідэнтыфікацыі на карысць ідэі грамадзянскай нацыі – значыць, займець у віртуальным сэнсе рызыку здабыцця небяспечнай і невылечнай хваробы прагерыі, якая імклíва робіць з дзяцей бездапаможных старых.

Пра нацыянальную ідэю, якую на працягу стагоддзя на паўпадпольным узроўні павольна выношвалі прадстаўнікі нашай нешматлікай эліты (ад Ігната Канчэўскага да Міколы Крукоўскага), сёння пачалі гаварыць нават з высокіх трыбун. Але ці магчыма дакладна сфармуляваць тую ідэю, адначасова адкідваюцы ўбок, нібы анахранізм, сам панятак нацыі або размываючы яго да ўзроўню абстрактнай грамадзянскай супольнасці? Нацыянальная самабытнасць – гэта стрыжань нацыянальнай ідэі, таму вышукванне разнастайных абстрактных канцэптаў, лагодна абмінаючых феномен нацыянальнага, гэта, умоўна кажучы, выплёскванне дзіцёнка разам з вадой. Адпаведна, лозунгі кшталту “моцнай і квітнеючай Беларусі” або “мірнага суіснавання людзей розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў у адзінай культурнай прасторы” не могуць разглядацца ў якасці нацыянальнай ідэі, у іх проста іншыя функцыі – ідэй-субстытутаў.

Нацыянальная ідэя – гэта, перш за ўсё, выява пазітыўных адметнасцяў таго ці іншага народа, якая акрэслівае яго гістарычную місію ў свеце. Беларусам, па-ранейшаму заклапочаным вызначэннем тых самых адметнасцяў, пакуль цяжка замахвацца на вызначэнне сваёй гістарычнай місіі. Мы сёння, на жаль, не даспелі да таго, каб узняцца са ступені “ня быць скотам” і “людзьмі звацца” на ступень “заняць свой пачэсны пасад між народамі”. Але гэта не азначае, што мы нейкія “адсталыя” і “затарможаныя” ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі нацыямі. Па-першае, наіўна

было б спадзявацца, што ў нашым выпадку нацыябудаўніцтва мусіць адбывацца ў паскораным рэжыме, па-другое, “цішэй едзеш – далей будзеш”.

У той час, калі большасць народаў Заходняй Еўропы паспела апрача свайго нацыянальнага характару акрэсліць яшчэ і шэраг палітычных інтарэсаў, беларусы толькі спрабавалі выпрастацца з сеціва каланіялізму і намацаць глебу для далейшых крокаў наперад. Запаволенасць этнакультурнага самаўсведамлення дала падставу для шматлікіх спекуляцыйных разваг на тэму, а ці з’яўляюцца наогул беларусы нацыяй, або гэта: мадэрнізаваная тутэйшасць, новае крэольства, рамантычна-геапалітычны праект “Беларусь”, транзітна-маргінальная зона паміж Усходам і Захадам і г.д.? Тутака, з аднаго боку, утварыўся вялікі разлог для заходнерусістаў, якія няспынна танчаць вакол спарахнелага ідала “трыадзінага брацтва”, абразліва сцярджаючы, што “беларусы – гэта ўсяго толькі этнаграфічная супольнасць усходнеславянскага этнасу, а беларуская мова – не больш чым дыялект”, і постмадэрністаў з другога боку, схільных упікаць беларусаў у прыналежнасці да ментальнай балоцвіны Еўропы.

А між тым, балота – гэта не толькі ўніверсальная метафара і наш нацыянальны архетып. Балота – гэта “лёгкія” усёй Еўропы, арэал фільтрацыі разнастайных ідэй, месца здабычы карысных выкапняў і пражывання мноства ўнікальных відаў. Ніхто звычайна не збіраецца на балота, каб там загінуць. Туды скіроўваюцца з практычнымі мэтамі – напрыклад, назбіраць грыбоў, журавін і лекавых раслін. І вядома, не варта лезці на балота дзеля прымусовай меліярацыі, фігуральнай аналогіяй якой мне ўяўляецца актыўнае прасоўванне канцэпту грамадзянскай нацыі і прапаганда адмовы ад нацыянальнага самавызначэння на карысць нейкай абстрактнай талерантнасці.

Варта зазначыць, што славутая талерантнасць беларусаў – гэта такі ж папулярны міф, які і скнарлівасць немцаў. Падаецца, што ў сучаснай версіі беларусы выглядаюць значна большымі скнарамі, а талерантнасць да людзей іншых нацыянальнасцяў акурат уласціва немцам. А вось схільнасць да канфармізму і насамрэч можа лічыцца нашай нацыянальнай рысай. Між іншым, паводле дадзеных аднаго з апошніх сацыялагічных даследаванняў аналітыкаў з НІСЭПД, каля 48 % беларусаў пры ўсталяванні акупацыйнай улады “імкнуліся б прыстасавацца да новых абставін жыцця”. Выходзіць, што мы – народ не толькі партызанаў, але і паліцаяў. У свой час гэтую асаблівасць геніяльна адлюстраваў Купала ў п’есе “Тутэйшыя”. Дарэчы, як паказваюць сучасныя даследаванні нейрабіёлагаў, канфармізм – гэта натуральная рэакцыя мозгу, абумоўленая неабходнасцю

выжывання ў соцыўме. То бок дзеля захавання відаў апошнія вымушаны мімікрыраваць згодна з умовамі навакольнага асяроддзя і прыстасоўвацца да паводзін большасці.

Аднойчы ў інтэрв’ю на “Радыё Свабода” пісьменнік Янка Брыль прамовіў легендарную фразу: “Калі б беларусу загадалі быць беларусам, які б гэта быў выдатны беларус!”. І ў гэтай, крыху правакацыйнай думцы, змяшчаецца пэўная мудрасць. Бо яшчэ адна з яскравых адметнасцяў беларусаў – браць прыклад з тых, хто “выйшаў у людзі”, прабіўся наверх, прыдбаў уладу і дасягнуў вядомасці (лепш за ўсё ў далёкім замежжы). Таму, у прыватнасці, беларуская мова не можа быць усталявана прымусовым шляхам у якасці паўсядзённага сродку камунікацыі і здолее атрымаць шырокі распаўсюд толькі пасля таго, як на ёй пачне размаўляць чынавенства, вайскоўцы і знакамітасці з пазалітаратурнага асяроддзя. Апроч таго, пакуль чалавек з пасіянарнымі здольнасцямі – гэта жыхар суседняга пад’езду, ягоныя ўчынкі могуць быць прыкладам пераважна на побытавым узроўні: “глядзі, якое аўто або паліто сабе набыў”. Калі ж гэта асоба набывае грамадскую вядомасць дзесьці за межамі краіны, дык былыя суседзі пачынаюць глядзець ужо не столькі на знешнія праявы, сколькі на вынікі дзейнасці: “О, гэта ж таксама наш!”. Так “нашымі” надзвычай лёгка становяцца тыя, хто не мае ніякага дачынення да беларускай культуры, і адзінай повяззю якіх з беларускай зямлёй з’яўляецца тое, што яны некалі тут нарадзіліся. Але ці варта, падобна сарокам, цягнуць ва ўласнае гняздо ўсё тое, што блішчыць, мяркуючы гэткім чынам “узбагаціць” беларушчыну? Ці не прывядзе гэта ўрэшце рэшт да празмернай “мазаічнасці”, пад спрэсам якой ужо цяжка будзе разглядзець першасныя падмуркі нашай адмысловасці?

У публічным дыскурсе апошніх дзесяцігоддзяў нярэдка можна патрапіць на гарачыя дэбаты, прысвечаныя вызначэнню таго, хто ж такі беларус. Адны кажуць, што беларус – той, у каго бацькі беларусы. Другія – той, у каго дзеці ўсведамляюць сябе беларусамі. Трэція патрабуюць лічыць беларусамі тых, хто пражывае ў Беларусі і мае беларускае грамадзянства. Чацвёртыя прапаноўваюць запісваць у беларусы ўсіх, хто хоць нейкім бокам мае стасунак да нашай зямлі, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай і заканчваючы Жарэсам Алфёравым.

Дадзеная блытаніна шмат у чым звязана з канкурэнцыяй паміж нямецкай (этнічна-прымардыялісцкай) і французскай (супольна-грамадзянскай) мадэлямі нацыі, а таксама са звычайнай недакладнасцю ў разуменні феноменаў нацыі і нацыяналізму. Апошні дык наогул часта прыроўніваецца да нацызму і фашызму, у розных варыяцыях спалучаецца з ксенафобіяй і выстаўляецца выключна ў негатыўным

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

святле. А між тым, для беларусаў з іх нетрывалай самаідэнтыфікацыяй канструктыўны нацыяналізм мог бы выканаць ролю той горкай, але неабходнай мікстуры, без якой цяжка пераадолець хваробу посткаланіяльнага манкуртызму.

Відавочна, што нацыі, апісаныя заходнееўрапейскімі рамантыкамі ў XIX стагоддзі, і нацыі сучаснага глабалізаванага свету – гэта не адно і тое ж. Але блытаць з грамадзянствам нацыю, пад якой разумеецца палітычна акрэсленая этнакультурная супольнасць людзей, аб'яднаная адзінствам паходжання і калектыўным усведамленнем прыналежнасці да агульных традыцый, каштоўнасцяў, мовы, нельга. Змена грамадзянства не прыводзіць да аўтаматычнай змены нацыянальнасці. Аднак апошняя, у адрозненні ад этнічнасці, якую, як і бацькоў, не выбіраюць, можа існаваць у гібрыдных формах. Іншымі словамі, нацыянальнасць пераважна вызначаецца фактарам, што ілюструе: *носьбітам якой культуры з'яўляецца чалавек*. І нават ва ўмовах існавання ў цяперашнім полікультурным свеце ў свядомасці чалавека змястоўная частка адной з культур так ці інакш будзе пераважаць над іншымі, бо немагчыма камфортна сядзець на двух ці трох зэдліках адразу.

Калі б Й. Гэрдэру давялося жыць у нашы дні, яго думка адносна таго, што "нішто так не супрацьстаіць мэтам дзяржаўнага кіравання, як хаатычная мяшанка розных чалавечых плямёнаў пад адным скіпетрам" успрымалася б як праява цемрашальства. Але цемрашальствам чамусьці не лічацца спробы паставіць ганаровую пячатку з надпісам "беларус" на кожнага жыхара нашай краіны. Парадаксальнасць становішча ў тым, што апалагеты грамадзянскага канцэпту нацыі, сярод якіх нямала прадстаўнікоў так званых этнічных меньшасцяў, ігнаруюць тую акалічнасць, што аўтаматычнае залічэнне ўсіх грамадзян краіны да ліку беларусаў супярэчыць магчымасці вольнага нацыянальнага самавызначэння гэтых самых меньшасцяў. Чаму, напрыклад, армянін, татарын або кітаец, якія жывуць у Беларусі, мусяць лічыць сябе менавіта беларусамі, а не дэклараваць іншую ідэнтычнасць? І чаму, разам з тым, наяўнасць беларускага грамадзянства зусім не абавязвае іх ведаць беларускую гісторыю і традыцыі, валодаць беларускай мовай? Куды ў дадзеным выпадку далучаць этнічных беларусаў, якія змянілі грамадзянства і жывуць на іншых кантынентах? І няўжо памыляўся і быў "непаліткарэктны" знакаміты спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, які жыў у розных кутках свету, але заўсёды падкрэсліваў: "Беларусам нарадзіўся, беларусам і памру"?

Вырашэнне нацыянальнага пытання ў часы існавання СССР аказалася зусім нялёгкай справай. Штучнае формаўтварэнне ў выглядзе "шматнацыянальнага савецкага народа" ляснулася, ніба фарфоравы сподак, адразу пасля распаду камуністычнай імперыі. Аднак вострыя ашчэпкі гэтага, мацаванага дзесяцігоддзямі,

№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757

субстрату, не даюць нам спакою і дагэтуль. І вось наперадзе пачынаюць мільгацець новыя наднацыянальныя штучнасці ў выглядзе еўразійства з аднаго боку, амерыканізму з другога боку, і еўрапейскасці – з трэцяга, для сілкавання якіх прыцягваюцца людзі з досыць моцным інтэлектуальным бэкграўндам.

І куды ж падацца бедным беларусам, калі іх увесь час спакушаюць выпрастацца ў розныя бакі? Адказ зашыфраваны ў ключавым элеменце нашага нацыянальнага арнаменту: Дзянніца (васьмікутная зорка) – гэта фактычна адлюстраванне ўсіх накірункаў на ружы компаса, а не толькі аднастайнага, уласцівага нам зараз, хістання паміж Усходам і Захадам. Гарманічная збалансаванасць быцця дасягаецца толькі ў выпадку наяўнасці паўнавартаснай, а не абсечанай выявы і яе спалучанасці з іншымі арнаментальнымі элементамі. Інакш кажучы, куды б мы не рухаліся – на Захад або на Ўсход, на Поўнач або на Поўдзень, але Беларусь мусіць быць перадусім.

Канешне, радыкальны нацыяналізм, пабудаваны на выключнасці правоў для адных і іхняй абмежаванасці для другіх, сёння выглядае атавістычна. У прыватнасці, прыхільнікі лозунга “Расія для рускіх” не разумеюць простай рэчы – у такой поліэтнічнай дзяржаве, як Расія, увасабленне ў жыццё дадзенага закліку мусіць спалучыцца з тым, што рускім трэба будзе лакалізавацца недзе ў межах аўтахтоннай прасторы Сярэдне-Рускай, Валдайскай, Валагодскай, Данілаўскай і Галічска-Чухломскай узвышанасцяў, пакідаючы населеным на іншых расійскіх тэрыторыях народам і этнічным групам справядлівае права на суверэнітэт і выйсце з федэрацыі. Але зусім іншая сітуацыя ў Беларусі, дзе грамадства адносна монаэтнічнае, таму скарыстоўваць тут выключна грамадзянскую мадэль нацыябудавання – справа недарэчная, прынамсі на бягучым этапе. Не варта брацца за кіраванне самалётам, не здолеўшы перад гэтым хаця б навучыцца ездзіць на ровары.

Наогул, нельга не пагадзіцца з меркаваннем палітолага Віталя Сіліцкага пра тое, што “Еўропа – гэта не нацыя (што б там ні казалі Хабермас і Дэрыда пры канструяванні еўрапейскай ідэнтычнасці ў якасці супраціву амерыканізму)”. Таму калі мы хочам у перспектыве пачувацца еўрапейцамі (або нават дзецьмі Галактыкі), трэба найперш навучыцца быць беларусамі. А гэта значыць, сярод іншага, мацаваць беларушчыну словам і справай, не зводзячы наш народ да ўзроўню этнасу і не размываючы сваю ўласную ідэнтычнасць у глабальным віры транснацыяналізму.

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Iryna Khadarenka: NATION VS. PROFANATION?**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2014, issue 8, pp. 41-46)*

The essay is dedicated to the complexity of the nation-building process in modern Belarus on a background of ideological competition between ethnic-primordial and common-civic concepts of the nation. The author mentioned that before the realization of civic nation's model in the Belarusian society, it's necessary to define a clear basis of national idea, language, symbols, values and traditions. And it's absolutely not correct to use the nationality and the citizenship as synonyms. Belarusian identity could be manifested among citizens of different countries, and at the same time various Belarusian citizens do not have to identify themselves namely as Belarusians.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Вадзім Шышко: СЛАВЯНЕ?**

На сёньняшні дзень лідарам сярод славянскіх краін з’яўляецца Расея. І на правах лідара яна намагаецца тым ці іншым чынам сабраць вакол сябе астатнія славянскія краіны. Калі ў сітуацыю надта не ўглядацца, то ўсё гэта выглядае даволі натуральна. Да таго моманту, пакуль мы не паставім пытаньне, а наколькі наогул сучасныя рускія з’яўляюцца славянамі?

Спачатку такое пытаньне можа падацца крыху вар’яцкім. Бо за гады расейскай і савецкай акупацыі ў нашай сьвядомасьці ўстойліва замацаваўся вобраз рускіх-славян. І нават цяпер, пасьля развалу СССР гэты вобраз у нас і ў Расеі працягвае насаджацца. Але, зь іншага боку, у той жа самай Расеі з’яўляецца іншая інфармацыя, якая парушае агульнапрынятую парадыгму. І для гэтага дастаткова зірнуць на дадзеную мапу, складзеную самімі расейцамі.




*Мапа расьсяленьня славянскіх і фіна-вугорскіх плямёнаў у канцы I тысячагодзьдзя н.э.*

На гэтай мапе выразна бачна першаснае засяленьне тэрыторыі сучаснай Расеі. І, у прыватнасьці, непасрэдна таго месца, дзе пасьля з'явілася Масква. Як бачна, славяне пры сваім расьсяленьні больш-менш шчыльна засялілі толькі тэрыторыі сучаснай Беларусі і Ўкраіны. Далей яны здолелі яшчэ крыху прасунуцца ўсходней за сучасны Смаленск, пасьля чаго і спыніліся. Усе ж астатнія тэрыторыі на ўсход былі заселеныя фіна-вугорскімі плямёнамі. І менавіта ў гэтых землях сёньня, лічыцца, знаходзяцца карэнныя землі сучаснай Расеі. У тым ліку і яе "сэрца" Масква.

Гэтая мапа адлюстроўвае перыяд расьсяленьня этнасаў прыкладна пад час Кіеўскай Русі. Казаць аб тым, што славяне пасьля распаду гэтай дзяржавы маглі зноў масава мігрываваць на ўсход, будзе некарэктна. Бо пасьля распаду Кіеўскай Русі ўсе племянныя саюзы пачалі канцэнтравацца на стварэньні сваіх асабістых племянных і затым ужо этнічных (нацыянальных, у адрозьненьні ад Кіеўскай Русі) дзяржаў, а не на тым, каб зноў куды перасяліцца. Эпоха вялікага перасяленьня народаў ужо скончылася. Зразумела, нельга казаць, што сярод фіна-вугорскага насельніцтва будучай Масквы і суседніх княстваў увогуле не было славян. Яны тут з'явіліся яшчэ пад час існаваньня Кіеўскай Русі. Але гэта былі не шматлікія перасяленцы, а зусім невялічкая колькасьць ваяроў кіеўскай дзяржавы, галоўнай задачай якіх з'яўлялася падпарадкаваньне мясцовых фінскіх плямёнаў, каб потым Кіеў мог браць зь іх даніну. З часам кіеўская дзяржава зьнікла, а прыехаўшыя славянскія ваяры засталіся.

Было іх, у параўнаньні зь мясцовым фінскім насельніцтвам, зусім нямнога. Але яны прынесьлі з сабой нашмат вышэйшую на той час славянскую культуру і дзяржаўную арганізацыю грамадзтва, чаго ў тагачасных фінаў яшчэ не было. Менавіта гэта і дазволіла гэтым нешматлікім славянам захаваць за сабой уладу над фінамі нават пасьля зьнікненьня сувязі (адпаведна і вайсковай падтрымкі) з метраполіяй-Кіевам. Зь цягам часу гэтыя нешматлікія славянскія кіраўнікі пачалі паступова зьмешвацца зь мясцовым фінскім насельніцтвам і этнічна-славянскага ў іх заставалася ўсё менш і менш. Але затое прынесеная імі славянская мова і культура захаваліся. З дапамогай іх маскоўскія і суседнія зь імі князі, і астатні зьнітаваны зь імі палітычны істэблішмэнт, заўсёды аддзялялі сябе ад мясцовага, менш разьвітага фінскага насельніцтва, нават калі самі яны ўжо даўно зьмяшаліся зь імі і былі ўжо больш фіна-ўграмі, чым славянамі.

Цяпер цяжка сказаць, як маглі б далей разьвівацца гэтыя фіна-вугорскія дзяржавы з моцным славянскім культурным чыньнікам у кіраўніцтве. Улічваючы тое, што сярод славян быў папулярны дэмакратычны лад кіраваньня дзяржавай (старажытнарускае веча), то, абапіраючыся на прынесеныя славянскія традыцыі, гэтыя фінскія дзяржавы ў будучым маглі бы пайсьці па падобнаму шляху разьвіцьця як і нашае княства

Літоўскае, зь яго вядомым падзелам улады на тры класічныя галіны: заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Прынамсі, у Ноўгарадзе, насельніцтва якога таксама складалася збольшага з фіна-вугорскіх плямёнаў са славянскай палітычнай элітай ва ўладзе, узьнікла рэспубліка. Аб хібах, або перавагах наўгародзкай рэспублікі можна доўга дыскутаваць, тым ня менш такі прэцэдэнт быў створаны. Але гісторыя, як вядома, ня церпіць умоўны лад. І свае карэктывы ўнесла заваяваньне амаль усіх славянізаваных фіна-вугорскіх дзяржаў мангола-татарамі.

У наш час расьце зацікаўленасьць да таго, кім жа на самой справе былі гэтыя самыя знакамітыя мангола-татары. Ці былі гэтыя манголы такімі ўжо манголамі? Тымі самымі маленькімі азіяцкімі намадамі, якіх мы сёньня так называем? Цяжка сказаць. Шмат розных спрэчных момантаў. Але дакладна вядома адно – пасьля заваяваньня Сярэдняй Азіі і прыняцьця іслама ў якасьці дзяржаўнай рэлігіі гэтыя самыя манголы, цяпер ужо ў адной кампаніі разам з татарамі, прынесьлі на заваяваныя імі землі славянізаваных фінскіх дзяржаў і многія азіяцкія традыцыі. А менавіта, усходні традыцыйны дэспатычны стыль кіраваньня дзяржавай. І калі да мангольскага заваяваньня ў фінскіх дзяржавах ад славян захоўваліся два важныя нацыястваараючыя элементы: славянская мова палітычнай эліты і славянскі дэмакратычны стыль кіраваньняб, то пасьля заваяваньня засталася толькі славянская мова. А калі ўлічваць, што ёй, па сутнасьці, карысталася толькі невялікае кола палітычных і рэлігійных дзеячоў у найбольшых фіна-вугорскіх гарадах, то нават і пра славянскую мову як народную казаць немагчыма.

Можна, канешна, узгадаць і пра праваслаўную веру, якой карысталіся жыхары фіна-вугорскіх княстваў. Але і тут мала суцяшальнага. Праваслаўнай верай збольшага карысталіся як і славянскай мовай – у асноўным жыхары буйных гарадоў. І амаль адразу за гарадзкімі ваколіцамі немагчыма было пачуць аніводнай праваслаўнай малітвы на старaславянскай мове – усё мясцовае фіна-вугорскае насельніцтва на сваёй мове шчыра малілася сваім фінскім багам. Праўда, пасьля мангольскага заваяваньня некаторыя фінскія плямёны пачалі паступова пераходзіць у іслам. У буйных гарадах, дзе ўжо замацавалася праваслаўе, іслам ня здолеў заняць лідыруючыя пазіцыі, таму ён нейкім нечаканым і мудрагелістым чынам сінтэзаваўся з праваслаўем і стварыў вельмі арыгінальную версію ўмоўна кажучы “маскоўскага” праваслаўя. Паглыбляцца ў яго нетры запатрабуе шмат часу, таму проста заўважым што такія рэчы маскоўскага “праваслаўя” як ісламскі паўмесяц на крыжы, або накідка маскоўскага мітрапаліта (зялёная, з трыма палоскамі ўнізе), якая выглядае адзін у адзін як сьцяг чачэнскіх ісламскіх радыкалаў-вахабітаў, выклікаюць непадробленую цікавасьць – наколькі маскоўскае “праваслаўе” з’яўляецца сапраўды хрысьціянскім?!

№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757







*Беларускі праваслаўны крыж Е. Полацкай*

*Маскоўскі "праваслаўны" крыж*

*Ісламскі паўмесяц*



*Маскоўскі "праваслаўны" мітрапаліт*



*Сьцяг чачэнскіх ісламскіх фундаменталістаў*

Такім чынам можна лічыць, што да канца 15 стагодзьдзя, калі Маскоўскае княства афіцыйна "вызвалілася" з пад улады Арды і заняла лідыруючыя пазіцыі сярод іншых суседніх фіна-вугорскіх дзяржаў, славянскага ў ёй не засталося амаль нічога. Рэлігія ўяўляла зь сябе нейкі мудрагелісты гібрыд ісламскага праваслаўя. Палітычная культура кіраваньня ператварылася ў цалкам перанятую з Усходу дэспатыю. Славянская мова выкарыстоўвалася выключна сярод вышэйшых палітычных і рэлігіных колаў. Этнічна колішнія нешматлікія славянскія заваёўнікі ўжо даўна растварыліся сярод мясцовага насельніцтва і аб ускосным дачыненьні тагачаснай палітычнай эліты да іх даўніх славянскіх продкаў нагадвалі толькі іх славянскія імёны, якія яны ўпарта захоўвалі, каб хоць неяк адрозьнівацца ад простага фіна-вугорскага насельніцтва.

І тут узьнікае цікавае пытаньне: якім чынам гэтыя напаўмусульманскія фіна-вугры 15 стагодзьдзя раптам ператварыліся ў славянаў-рускіх 19-20 стагодзьдзяў?

Магчыма, што растлумачыць гэта можна жаданьнем мясцовай маскоўскай палітычнай эліты быць заўважнымі сярод моцных дзяржаў таго часу. А запазычаны ўсходні дэспатычны стыль кіраваньня дзяржавай толькі абвастрыў гэтае жаданьне. Пакуль моцнай з'яўлялася Арда, Масква таксама надта не імкнулася да славянства. Маскоўскія князі спакойна апраналі ўсходнія халаты і чалму і былі задаволены сваім жыцьцём.



*Васіль III у чалме на троне (зьлева) прымае аўстра-вугорскіх амбасадараў у Маскве*

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Калі ж Арда стала паступова прыходзіць у заняпад, то імкненьне пераймаць яе магло б перашкодзіць іміджу Масквы. Быў патрэбны нейкі новы ўзор. З якой-небудзь дзяржавы побач, якая на той момант з'яўлялася б моцнай і аўтарытэтнай. І такой дзяржавай побач аказалася нашае княства Літоўскае, у якое ўваходзілі амаль усе землі былой славянскай Кіеўскай Русі. І вось тут маскоўскія фіна-вугорскія, напаўісламізаваныя князі са славянскімі імёнамі раптам узгадалі, што калісьці, у даўнія часы, і да іх сюды, у фіна-вугорскія балоты, у якіх жыло фінскае племя моксель, прыехала некалькі славянаў. Ну чым не прычына каб заявіць і свае правы на славянскую спадчыннасьць?!

І далей пачалася вядомая гісторыя вельмі шчыльных стасункаў двух, як іх цяпер вельмі любяць называць, "брацкіх" народаў: ліцьвінаў (славяна-балтаў) і маскалёў (фіна-вуграў). Засноўваць свае прэтэнзіі на славянства зыходзячы толькі з таго, што калісьці ў іх моксельскія балоты заехала некалькі славянскіх дружыньнікаў, было неяк не зусім зручна. Трэба было для большай грунтоўнасьці мець хаця б некалькі сапраўды славянскіх зямель. Але як на зло, ужо амаль усе славянскія землі былі аб'яднаныя ў княстве Літоўскім. Значыць, трэба адбіраць. Акрамя таго існавалі яшчэ і такія невялічкія славянскія дзяржавы, як Ноўгарадзкае і Пскоўскае княствы, якія было няцяжка захапіць.

Масква пачала метадычна тэрарызаваць усходнія землі княства Літоўскага. А так як тагачасны вялікі князь не паставіўся да гэтай небясьпекі сур'ёзна, то Маскве атрымалася адарваць ад ВКЛ некалькі славянскіх зямель, улічваючы Смаленск. Плюс да таго ўдалося даволі лёгка падпарадкаваць сваёй уладзе Ноўгарад і Пскоў. Пачатак быў пакладзены. Цяпер маскоўскія князі маглі ўпэўнена казаць, што дзяржава з'яўляецца славянскай (праўда, толькі невялічкая частка, але ж гэта няважна). І так як захопленыя землі яшчэ з часоў Кіеўскай Русі пакінулі сабе рэгіянальную назву Русь (нават у складзе ВКЛ), то Масква прыўлашчыла гэтую назву і сабе, каб хоць неяк прымазацца да велічнай усходнеславянскай спадчыны. І менавіта ў той час, у 16 стагодзьдзі, Маскоўская дзяржава атрымала назву "Белая Русь". Чаму белая, пакуль што дакладнага адказу няма.

Аднак усе гэтыя высілкі вялікага плёну не давалі. Колькі маскоўцы не называлі сябе рускімі, усе астатнія народы ўсё роўна бачылі ў іх толькі маскоўцаў – нашчадкаў фіна-вугорскага племені моксель. Іван Жахлівы нават афіцыйна назваў сябе рускім царом. Але не, і гэта не дапамагло. Ніхто не хацеў бачыць у маскалях славян, таму што яны па сваёй сутнасьці заставаліся фіна-ўграмі, ня толькі этнічна, але і культурна. І пры наяўнасьці па суседзтве моцна разьвітай славянскай краіны ВКЛ гэтае адрозьненьне асабліва моцна кідалася ў вочы. Трэба было нешта рабіць з

гэтым. І чарговы маскоўскі цар, ужо з новай дынастыі Раманавых, Аляксей Міхайлавіч, вырашыў самым радыкальным чынам зьмяніць гэтую сітуацыю: набыць славянскую ня толькі назву, але і зьмест для краіны. І пазбавіцца ад свайго цывілізацыйнага канкурэнта.

Зручная магчымасьць для гэтага выдалася ў сярэдзіне 17 стагодзьдзя. Рэч Паспалітая, якая выбілася з сіл пасьля ўдзелу ў 30-гадовай еўрапейскай вайне і задушэньня казацка-сялянскага паўстаньня, ня мела ўжо фізічных магчымасьцей каб вытрымаць яшчэ адзін моцны зьнешні удар. І Аляксей Міхайлавіч яго нанёс. У 1654 годзе пачалася самая страшная і бязьлітасная за ўсю гісторыю Беларусі вайна, якая доўжылася доўгіх 13 гадоў.

План Аляксея Міхайлавіча апраўдаўся цалкам. Уся Беларусь была вынішчана і спалена. Палова насельніцтва была забітая, загінула ад голаду, або была ўгнаная ў палон. Усё магчымае было абрабавана. Уся тая славянская культурная спадчына, якую нашыя продкі стваралі стагодзьдзямі, ад Ефрасіньні Полацкай і да Францыска Скарыны, была вывезеная ў Маскву. Тое, што вывезьці не ўдавалася, спальвалася і разбуралася. Каля 300 тысячаў ліцьвінаў былі ўведзены ў палон. Амаль усе гарады, якія з’яўляліся асяродкам стварэньня і распаўсюджаньня нашай арыгінальнай славяна-ліцьвінскай культуры, былі зьнішчаны. Нашая радзіма страціла ня толькі ўсе свае матэрыяльныя культурныя славянскія каштоўнасьці, але і, што самае страшнае, усіх тых, хто мог іх зноў стварыць.

І цяпер нашае становішча з Масквой рэзка зьмянілася. Мясцовае насельніцтва княства Літоўскага, умоўна кажучы, пазбавілася сваёй “галавы” – інтэлігенцыі. І цяпер да зямель княства Літоўскага стала хутка ліпнуць новая назва, якую навязвалі з Масквы – Белая Русь. Але аспрэчыць новую назву ўжо не было каму фізічна. А Масква наадварот, набыла велізарную колькасьць культурных славянскіх артэфактаў і, расьсяліўшы па сваіх землях 300 000 палонных славян-русінаў з ВКЛ, зьмяніла тым самым і этнічны генафонд мясцовага фіна-вугорскага насельніцтва. Пачынаючы з гэтага часу ў маскоўскага цара цяпер было больш падстаў, каб сапраўды называцца рускім царом. Што ён актыўна і рабіў.

Лагічным працягам палітыкі Аляксея Міхайлавіча стала палітыка, якую праводзіў на нашай тэрыторыі падчас Паўночнай вайны Пётр І – далейшае зьнішчэньне яшчэ не акрыяўшай пасьля апошняй вайны краіны. І, адпаведна, далейшае пашырэньне межаў свайго царства. Менавіта пры Пятры І з часоў Івана Жахлівага найбольш выразна праявіўся ўсходні дэспатычны стыль кіраваньня дзяржавай, калі, нягледзячы на масавае супраціўленьне народа, ужо імператар Расеі зламаў усе народныя культурныя традыцыі і гвалтам насадзіў заходнееўрапейскія звычаі.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Больш культурнымі ад гэтага мясцовыя фіна-вугры ўсё роўна ня сталі. А крыві пралілося вельмі шмат. Тым ня менш нядаўна народжанае “рускае” царства ўсё роўна ператварылася ўжо ў расейскую імперыю.



*Першапачатковы выгляд Полацкай Сафіі – аднаго з трох галоўных і старажытных праваслаўных храмаў ва ўсходніх славян (пабудаваны ў 1030-1060 гг). Зьнішчаны па загаду Пятра I падчас Паўночнай вайны супраць Швецыі 1 траўня 1710 года.*

Можна было лічыць, што галоўная задача наваяўленнай “славянскай” дзяржавы выкананая. Цывілізацыйны канкурэнт фізічна і культурна амаль цалкам зьнішчаны і ўсё самае лепшае (назва і культура) у яго адабранае. Можа б расейскія цары і спалі спакойна, але як на зло суседняя Рэч Паспалітая пачала зноў уставаць на ногі. Павольна, але рашуча. І хоць на тэрыторыі ліцьвінскіх русінаў ужо ўпэўнена

распаўсюджвалася паланізацыя, але заставалася памяць аб былой магутнай ліцьвіна-русінскай дзяржаве ў выглядзе шматлікіх гістарычных дакументаў, якія рана ці позна пачаліся б вывучацца. Тым больш, што ў рэчы Паспалітай была створана Адукацыйная камісія – самае першае міністэрства адукацыі ў Еўропе (лічы, што і ў сьвеце). Вынікі маглі бы быць непрадказальнымі. А значыць, што, каб збоку зноў не адрадзілася моцная славянская краіна, у якой расейская фіна-вугорская імперыя адабрала яе мінулае, лепш яе ўвогуле прыбраць з палітычнай карты сьвету. Што і было зроблена трыма падзеламі Рэчы Паспалітай.

Палітычна княства Літоўскае было зьнішчана. А каб яго жыхароў ментальна ператварыць у верных падданых імперыі, трэба было стварыць новую гісторыю, у якой славяне княства Літоўскага і фіна-вугры былога княства Маскоўскага станавіліся ўсе разам аднолькавымі ўсходнімі славянамі. Для гэтага была створана адмысловая гістарычная камісія на чале з імператарскім гісторыкам М. М. Карамзіным. У задачу якой уваходзіла зьмяненьне гістарычнай парадыгмы ва ўказаным кірунку. Што яны пасьпяхова і зрабілі. Некаторыя непатрэбныя гістарычныя крыніцы раптоўна зьніклі. А некаторыя, якіх увогуле не існавала, але яны былі б вельмі патрэбныя для новай гістарычнай канцэпцыі, раптам аднекуль з'яўляліся. Такім махлярствам і была створана тая самая расейская гісторыя, якая і дагэтуль вывучаецца ў сучасных расейскіх школах.

Усе спробы жыхароў былой Рэчы Паспалітай вызваліцца ад расейскага прыгнёту жорстка душыліся. А каб у будучым хутчэй пазбавіцца ад далейшых магчымых паўстаньняў, актыўна праводзілася тая імперская палітыка, якую трапна апісаў расейскі генерал Мураўёў-"шыбеньнік": "тое, што ня зробіць рускі штых, зробіць руская школа". І яна зрабіла. У хуткім часе ў Беларусі стала папулярнай тэорыя заходнерусізму: маўляў, беларусы – гэта тыя ж самыя расейцы (маскоўскія фіна-вугры), толькі сапсаваныя палякамі.

Менавіта таму, калі пасьля расейскіх рэвалюцый 1917 года імперыя пачала развальвацца, беларусы вельмі павольна і нерашуча рабілі нейкія крокі да самастойнасьці – гэтае пакаленьне беларусаў пачатку 20 стагодзьдзя ўжо атаясамлівалі сябе з рускімі. І толькі дзякуючы такім апантаным барацьбітам за незалежнасьць, як Вацлаў Ластоўскі, браты Луцкевічы і іншыя, у нас былі зробленыя хоць нейкія спробы для стварэньня нашай незалежнай дзяржаўнасьці. Так, у варунках тагачаснай міжнароднай палітыкі ім не атрымалася ажыцьцявіць сваю ідэю, і гэта ня іх віна. Але затое з-за іх дзейнасьці бальшавікі былі вымушаныя стварыць хай і марыянеткавую, савецкую і сацыялістычную, але ўсё ж такі беларускую рэспубліку.

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

І хай гэтая назва гістарычна нам не пасуе (бо прыйшла да нас з Масковіі), хай падчас панаваньня на нашай зямлі бальшавікоў амаль уся беларуская нацыянальная інтэлігенцыя была зьнішчана (ужо другі раз пасьля 13-гадовай вайны ў 17 стагодзьдзі). Але само існаваньне іншай назвы і дзяржавы (хай сабе і цалкам залежнай), якія адрозьнівалі нас ад рускіх, зрабілі сваю справу. Беларусы ўсё ж такі не ператварыліся ў рускіх. І калі зноў узьнікла магчымасьць стварыць сваю незалежную дзяржаву, мы гэта нарэшце зрабілі.

Канешна, нельга казаць, што цяпер у нас з нацыянальным самавызначэньнем усё цудоўна. Беларуская мова (былая русінская часоў княства Літоўскага) пакуль што яшчэ ня стала для людзей прывабнай. У ментальным плане людзі зразумелі, што яны ня рускія, але хто тады ў такім выпадку, таксама ня могуць сказаць. Так, праблем шмат. Але, як кажуць, зусім няма праблем толькі ў мёртвых. А калі ў нас праблемы ёсьць, значыць мы яшчэ жывыя.

У нас цяпер з’явілася цудоўная магчымасьць зноў вывучаць сваю гісторыю і выразна ўбачыць, што мы – славяна-балты – па ўсім параметрам адрозьніваемся ад нашых усходніх суседзяў – фіна-вуграў. Адпаведна, усе гэтыя трызьненьні аб нейкім заходнерусізме, або ўсходнеславянскім трыадзінстве, мы можам сьмела пакінуць таму, хто іх прыдумаў. Іншая справа, што цяпер рабіць расейцам. Ім, якія збольшага з’яўляюцца нашчадкамі фіна-вуграў і суседніх зь імі цюркскіх і татарскіх этнасаў, два стагодзьдзі ўбівалі ў галаву, што яны – славяне. А цяпер пачынае з’яўляцца адваротная інфармацыя. Ведаючы гісторыю Расеі застаецца толькі здагадвацца, чым гэта для іх усіх скончыцца. Але гэта іх праблемы.

Нашая задача на сёньня – узгадаць, хто мы такія. І не губляць сувязь з нашымі продкамі, незалежна ад таго, наколькі яны ад нас далёкія – ці гэта непасрэдна нашыя бацькі, ці якія прабабулькі ў трыдзесятым калене, якія жылі падчас самага вялікага росквіту нашага Вялікага княства Літоўскага. Усе яны аднолькава з’яўляюцца нашай сувязьзю з той Сусьветнай інфармацыйнай бясконцасьцю, згубіўшы якую мы адразу ператвараемся ў нішто.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

**Vadzim Shyshko: THE SLAVS?**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2014, issue 8, pp. 47-57)*

It is discussed the role of Finno-Ugor and Mongol-Tatar tribes, Orthodox and Islam religions in the development of Muscovy state. The involving the term "Slavs" into the history of Muscovy state began in 15-17 centuries when it was necessary to rationalise the war against the Great Duchy of Lithuania (GDL), and to take the territories where lived the current Belarusians (then Krivichi-Slavs-Ruthens). During the 13-year war (1654-1657) almost 300 000 Slavs-Ruthens from the GDL were translocated to the Muscovy state. Then, the same approach was applied while destroying Rech Pospolita in the end of 18 century and as result huge territories populated with Slavs were joined to Russian Empire (Rossijskaja Imperia). The story of Russian state based on Slavs foundation was exploited by N. Karamsin and other Russian historicians to prove Slavic character of Russian Empire, the idea that is now criticised even in Russia itself. It is very important now to distinguish the Belarusians – the ancestors of assimilated Slavic-Baltic tribes, and Great Russians – the ancestors of different ethnic groups including Finno-Ugro and Mongol-Tatar ones.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№8, сьнежань 2014* *ISSN 2291-4757*

**Вадзім Шышко: ФІЗІЯЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛІЗМУ**

Нацыяналізм – гэта адно з тых супярэчлівых адкрыцьцяў XIX стагодзьдзя, ацэнкі якога па сёньняшні дзень адрозьніваюцца супрацьлегласьцю і нявызначанасьцю. З аднаго боку, менавіта пад сьцягам нацыяналізму вялікая колькасьць краін здолела вызваліцца з-пад прыгнёту наднацыянальных імперый, якія пагражалі падпарадкаваным народам уніфікацыяй іх мовы і культуры з паступовым зьвядзеньнем усёй іх культурнай разнастайнасьці да нейкага адзінага ўзору дамінуючага ў імперыі этнасу. Але, зь іншага боку, некаторыя краіны захапіліся нацыяналізмам настолькі, што ён у іх пачаў прымаць пагрозьлівыя гіпертрафаваныя формы. Прыклад нацысцкай Нямеччыны ў гэтым шэрагу самы яскравы, але далёка не адзіны.

Што ж гэта за з’ява такая супярэчлівая, якая адначасова “і лечыць, і калечыць”? Паспрабуем зразумець гэта праз больш дэталёвы разбор таго, што менавіта робіць гэты самы нацыяналізм у нашым грамадзтве. Ці, калі больш дакладна, што мы робім самі з сабой зь яго дапамогай. Спачатку паспрабуем знайсьці вытокі нацыяналізма.

Слова “нацыяналізм” узьнікла ад слова “нацыя”. Нацыя – гэта (ад лац. natio – племя, народ) сацыяльна-эканамічная, культурна-палітычная і духоўная супольнасьць індустрыяльнай эпохі. Першымі сучаснымі нацыямі, па сьцьвярджэньні класіка дасьледаваньня нацыяналізму Бенедыкта Андэрсана, былі лацінаамерыканскія, якія сфармаваліся ў ходзе барацьбы супраць іспанскай кароны, за якімі зь невялікім адрывам рушылі ўсьлед ЗША і затым Францыя.

№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757



*Бенедыкт Андэрсан*

Упершыню разуменьне нацыя ў яго палітычным значэньні з’явілася менавіта падчас Вялікай Францускай рэвалюцыі, калі паўстала неабходнасьць сфармаваць нейкую агульнасьць наўзамен страчанага “падданства французскай кароне”. Раней 1750 выявіць зародкі нацыяналізму ўжо вельмі складана, нацыяналізм – феномен Новага часу. У 1800-я гады паўстаў нямецкі нацыяналізм, затым рушылі ўсьлед нацыяналізм Грэцыі і скандынаўскіх краін (1810-20 гады), італьянскі нацыяналізм (1830-я гады), у 1850-1900 гадах нацыяналізм распаўсюдзіўся на краіны Усходняй Еўропы і ў Індыю, а ў пачатку 20 ст. – у краіны Азіі і Афрыкі. Самымі гістарычна маладымі нацыямі сталі нацыі в’етнамцаў і камбаджыйцаў – іх нараджэньне прыйшлося на 1930-50 гады.Такім чынам, ідэалогія нацыяналізму ў адным са сваіх асьпектаў заключаецца ў адасабленьні і вылучэньні асобнай нацыі з агульнай колькасьці народнасцяў, якія пражывалі да ўзнікненьня нацыі на пэўнай тэрыторыі. Пасля адасабленьня нацыі парадыгма нацыяналізму пачынае працаваць на станаўленьне, абарону і ўмацаваньне сваёй нацыі (пар. станаўленьне большасьці славянскіх нацый падчас распаду Аўстра-Вугорскай імперыі).

Але ці значыць гэта, што да эпохі Новага часу ніякія іншыя этнасы не імкнуліся абараніць і ўмацаваць сваё становішча сярод іншых? У такіх вялікіх маштабах як

сёньня, канешна, не. Але ў больш дробных этнічных супольнасьцях мы можам знайсьці нешта падобнае. Хаця ў такіх выпадках казаць аб нацыяналізме нельга ні ў якім разе. Тут самы паказальны прыклад – старажытнагрэцкія полісы. Калі выключыць з дэфініцыі разуменьня слова “нацыя” індустрыяльную эпоху, то ўсё астатняе цудоўна пасуе сярэднестатыстычнаму жыхару старажытных Афін, або іншага суседняга горада. Жыхары аднаго горада вельмі шчыльна адчувалі паміж сабой як сацыяльна-эканамічныя, так і культурна-палітычныя, і духоўныя сувязі, якія ператваралі іх усіх у адзіную супольнасьць горада-дзяржавы.

Чым, так мовіць, нацыяналізм старажытных грэкаў адрозьніваўся ад сучаснага нацыяналізму? Па вялікаму рахунку толькі арэалам свайго распаўсюджваньня. Які, у сваю чаргу, залежыць менавіта ад тэхналагічнага разьвіцьця дадзенай супольнасьці. Тут трэба заўважыць такую акалічнасьць – выключна палітычная падпарадкаванасьць ня можа стварыць з падпарадкаваных этнасаў нацыю так хутка, як гэта робіць тэхналагічна-інфармацыйная ўзаемасувязь і ўзаемазалежнасьць. Узгадаем усе велізарныя імперыі старажытнасьці. Як бы доўга яны не існавалі, але палітычна дамінуючыя этнасы ў іх так і ня здолелі з усіх народаў стварыць нейкую адзіную нацыю. Таму так званы старажытны “нацыяналізм” заўсёды быў абмежаваны толькі невялікай тэрыторыяй канкрэтнага этнасу, межы якой дазвалялі насельніцтву быць цесна зьнітаваным паміж сабой эканамічна і інфармацыйна. Ва ўсіх астатніх сваіх дзеяньнях старажытныя “нацыі” паўтаралі тое ж самае, што і цяперашнія, агульнапрынятыя нацыі: станаўленьне, абарона і ўмацаваньне. Прычым, гэта ўласьціва ўсім старажытным супольнасьцям, ад самага дробнага племені, да высокаразьвітых народаў, якія нават здолелі стварыць свае імперыі.

Таму, мы можам дэфінаваць, што, такая грамадзкая з’ява як нацыяналізм, была заўсёды ўласьціва чалавецтву. А тэхналагічнае разьвіцьцё толькі надало гэтай з’яве ўжо надэтнічны, планетарны характар. Як прыклад – амерыканская нацыя, якая ня мае свайго дакладнага этнічнага базіса і збольшага складаецца з прадстаўнікоў самых разных этнасаў, але сам алгарытм разьвіцьця нацыі застаецца той самы: станаўленьне, абарона і ўмацаваньне. Наколькі ж глыбока ў сутнасьць чалавека ўходзіць гэтая з’ява? Падаецца, што глыбей, чым гэта можа нам падацца з цяперашняга нашага ўзроўню культурнага разьвіцьця. І для параўнаньня зірнем на навакольны сьвет. У прыватнасьці – на тых жывёл, якія жывуць у супольнасьці.

Як бы гэта не здавалася дзіўным, але, для выжываньня якой-небудзь жывёльнай супольнасьці, яе ўдзельнікам трэба выконваць той жа самы алгарытм дзеяньняў. Гэтым жывёлам трэба спачатку аб’яднацца, стварыць сваю супольнасьць – станаўленьне. Умець дапамагчы адзін аднаму абараніцца ад самых розных

небясьпечных зьнешніх з’яў – абарона. Асваеньне магчыма большых арэалаў пражываньня, каб забясьпечыць неабходнымі сродкамі для жыцьця і сябе і сваіх нашчадкаў – умацаваньне.



Як бачна, паводзіны жывёл дакладна паўтараюць тыя працэсы, якія адбываюцца падчас станаўленьня нацыі. Праўда, назваць гэта жывёльным “нацыяналізмам” будзе, мякка кажучы, недарэчна, бо з жыцьця жывёл выпадаюць такія выключна чалавечыя фактары як культура, эканоміка, духоўнасьць. Але, тым ня менш, сам працэс разьвіцьця супольнасьці, ці то жывёльнай зграі, ці то чалавечай нацыі, атрымліваецца аднолькавым.

І калі мы ўважліва зірнем на разьвіцьцё чалавечай нацыі, але, умоўна кажучы, ужо з боку зграі жывёл, то пабачым усё тое ж самае. Які-небудзь актыўны, пасіянарны этнас спачатку вылучае сваю самаідэнтычнасьць сярод сваіх суседзяў, а пасьля спрабуе пашырыць тэрыторыю свайго існаваньня, падмінаючы пад сябе слабейшых і баронячыся ад мацнейшых. Нічога прынцыпова адрознага ад таго, што мы можам убачыць сярод жывёл. Таму можна зрабіць наступную выснову, што, па сваёй сутнасьці, нацыяналізм – гэта тая ж самая барацьба за выжываньне, заснаваная на жывёльным інстынкце самазахаваньня і падмацаваная тэхналагічным прагрэсам чалавечага розуму.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

Гучыць нават крыху зьбянтэжваючы. Атрымліваецца, што нацыяналізм – гэта жывёльны інстынкт. Але пужацца няма чаго. Ніколі нельга забывацца на тое, што чалавек – гэта істота дуалістычная. І акрамя сваёй духоўнай, разумовай сферы, чалавек яшчэ фізіялагічна карыстаецца тымі ж самымі інстынктыўнымі механізмамі, што і астатнія жывёлы вакол нас. Гэта цалкам нармальна. Іншая справа, што такое, здавалася б на першы погляд, ідэалістычнае разуменьне як “нацыяналізм” (і блізкі да яго “патрыятызм”), на самой справе з’яўляецца такім жа самым фізіялагічным інстынктам, як і многія іншыя. Падобна на тое, што нацыяналізм, як бы выказаўся ў свой час доктар З. Фройд, сублімаваўся з інстынктыўна-жывёльнага ўзроўню ў тэарэтычна-ідэалістычны.



*Зыгмунд Фройд*

Можа ўзьнікнуць пытаньне, як у такім выпадку нам ставіцца да нацыяналізму, калі на самой справе ён з’яўляецца такой жа самай жывёльнай патрэбай нашага арганізму як ежа, сон, сэкс, бясьпека і г.д.? Адказ адназначны: гэтак жа сама як і да ўсіх астатніх нашых жывёльных патрэб. Ні ў якім разе не ігнараваць, але і без фанатызму.

Калі мы ўвогуле адмовімся ад нацыяналізму, то гэта прывядзе да таго, што ў выніку мы згубім арэал свайго пражываньня, сваю мову, сваю нацыянальную самаідэнтычнасьць. І пасьля гэтага зьнікненьне нашага этнасу – гэта толькі пытаньне часу. Каб гэта не здавалася нечым далёкім, то трэба заўважыць, што гэты працэс ужо йдзе. Арэал свайго распаўсюджваньня мы ў значнай ступені згубілі (Беласток, Вільня, Дзьвінск, Смаленск). Нашая мова таксама балансуе на мяжы зьнікненьня. І як вынік частага негатыўнага ўздзеяньня звонку і памылковай унутранай палітыкі, нашая нацыянальная самаідэнтычнасьць таксама знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Як доказ – фенаменальная абыякавасьць пераважнай большасьці беларускага насельніцтва да лёсу сваёй краіны. Ня трэба будзе надта зьдзіўляцца, калі пры спробе інкарпарацыі нашай дзяржавы якой-небудзь іншай, беларускае насельніцтва ў сваёй большасьці прапусьціць гэтую падзею міма сябе – абы асабіста яго не чапалі.

Спосабы зьнішчэньня этнасу могуць быць рознымі: фізічны, духоўны і камбінаваны. Духоўны спосаб зьнішчэньня беларускага этнасу збольшага выкарыстоўвалі палякі, у выглядзе паланізацыі. Спачатку спантанай паланізацыі, у 18 ст., а пасьля мэтанакіраванай у міжваенны час 20-га ст. Фізічны спосаб зьнішчэньня нашага этнасу выкарыстоўвалі спантанным чынам расейцы, падчас 13-гадовай вайны ў 17 ст., і мэтанакіравана немцы, падчас 2-й Сусьветнай вайны. Камбінавана, фізічна-духоўна, беларускі этнас зьнішчалі нашыя расейскія суседзі ў 19 і асабліва ў 20 стст.

Усе гэтыя намаганьні – рэгулярнае фізічнае зьнішчэньне інтэлектуальнай эліты і найбольш вытворчых чалавечых рэсурсаў, каланіяльны культурны ціск на мясцовую культуру з адначасовым насаджэньнем сваёй – далі свой плён. У выніку зь беларускага этнасу так і ня здолела стварыцца нацыя. Паводле Бенедыкта Андэрсана гістарычна самымі маладымі нацыямі сталі в’етнамцы і камбаджыйцы. Але ў нас ёсьць усе шансы абыйсьці іх па маладосьці. Праўда, толькі ў тым выпадку, калі мы ўсё ж такі здолеем стаць нацыяй. Бо ў сёньняшняй гістарычнай сітуацыі гэта досыць складана. У сувязі з тым, што цяперашняя каланіяльная экспансія магутных дзяржаў часьцей ідзе па больш вытанчанай схеме, чым ранейшая прымітыўная ўзброеная інтэрвенцыя. У сёньняшнім высокатэхналагічным сьвеце, каб падпарадкаваць сабе суседнюю, слабейшую краіну, дастаткова зрабіць яе эканамічна залежнай. Калі ўдасца гэта зрабіць, то, выкарыстоўваючы эканамічныя механізмы лёгка перацягваць да сябе мясцовую інтэлектуальную эліту (т.зв. “выпампоўка мазгоў”). Такім чынам этнас эканамічна залежнай дзяржавы застаецца без таго жыцьцёва неабходнага слоя інтэлігенцыі, які духоўна можа абгрунтаваць і зафіксаваць народжаную нацыю.

*№8, сьнежань 2014 ISSN 2291-4757*

У сваю ж чаргу дзяржавы-каланізатары, зноў-такі, выкарыстоўваючы эканамічныя механізмы, пачынаюць актыўна экспартаваць у свае эканамічна залежныя калоніі сваю культуру. Пры гэтым, пры канкурэнцыі культур, у масавую сьвядомасьць насаджваецца прынцып, што менавіта тая культура найбольш вартая, у якую ўкладзена больш грошай. (Як прыклад, знакамітая поп-музыка, якая пры мінімальных мастацкіх і духоўных якасьцях становіцца “шэдэўрам” у сучасным грамадзтве. Менавіта з-за таго, што яе кошт штучным чынам узьняты неверагодна высока дзякуючы пануючым у нашым жыцьці мас-медыя.)







*“Зоркі” музыкі з захаду і ўсходу*

Адпаведна, калі эканамічна залежная краіна ня можа ўкласьці ў сваю культуру столькі грошай, значыць і яе культура з’яўляецца непаўнавартаснай. Пры гэтым на яе фактычную духоўна-мастацкую каштоўнасьць адмыслова ніхто не зьвяртае ўвагі. І няма нікога, хто мог бы даказаць зваротнае, бо амаль ўся мясцовая этнічная інтэлігенцыя ўжо эміґравала ў багацейшыя краіны. Далей наступае лагічная разьвязка. Простае насельніцтва эканамічна залежнай краіны, ня маючы дастатковай альтэрнатывы з боку сваёй этнічнай культуры, паступова пачынае выкарыстоўваць тую культуру, якую ім экспартуе разам са сваімі таварамі пануючая над іх краінай эканамічна-фінансавая метраполія. Паступова пераймаюцца, чужыя звычкі, сьвяты, паводзіны, творы мастацтва, мова. А чужая мова, як ужо была зазначана ў ранейшым артыкуле, праз семантычныя ланцужкі (ужо на фізіялагічным узроўні!!!) стварае чужы менталітэт. І так ціха, спакойна, без усякай страляніны, эканамічна залежны этнас ператвараецца ў той, ад якога ён залежыць. А дзяржаўныя межы на палітычнай мапе толькі на гэтай мапе і застаюцца.

Адзінае, што некаторы час здольна яшчэ адрозьніваць этнас ад іншых – генэтыка. Але адна яна сама па сабе ня здольная нешта зьмяніць, бо пры моцным культурным і эканамічным узьдзеяньні людзі хутка перастаюць зьвяртаць на яе ўвагу. Найлепшы прыклад – ЗША, дзе людзі самых розных этнасаў сьвядома лічаць сябе самымі сапраўднымі амерыканцамі, поўнасьцю ігнаруючы тое, якое генэтычнае паходжаньне яны маюць. І менавіта ЗША сталі першай імперыяй новага тыпу, якая пачала падпарадкоўваць астатнія краіны ня толькі зброяй, але і эканамічна, паступова павялічваючы ў сваіх эканамічных калоніях свой культурны ўплыў, і тым самым робіць мясцовае насельніцтва падобным на сябе. Зразумела, што ў такім выпадку каланіяльнаму народу спадзявацца на з’яўленьне сваёй нацыі на базе мясцовага этнасу не выпадае. Па такому ж шляху эканамічнай экспансіі паспрабавалі пайсьці іншыя еўрапейскія краіны, але ў сілу розных прычын дасягнуць такіх посьпехаў як ЗША яны ня здолелі.

Адзіная краіна, якая на сёньняшні дзень можа скласьці канкурэнцыю ЗША ў стварэньні эканамічна-культурнай імперыі – гэта Расея. Спачатку Расея пачала складвацца як звычайная класічная імперыя, заваёўваючы свае новыя каланіяльныя ўладаньні зброяй. Але 20 стагодзьдзе ўнесла свае карэктывы – са з’яўленьнем зброі масавага паражэньня грубая заваёўніцкая палітыка стала небясьпечнай для саміх агрэсараў. Трэба было шукаць новыя метады. Таму, пасьля таго як Расейская імперыя скончыла свой эксперымент з пабудаваньнем камунізма, яна перайшла на выкарыстаньне ўжо абкатанага ЗША спосабу пабудаваньня імперый новага тыпу. І на сёньняшні дзень выразна бачна як Расея імкнецца праз энэргетычныя рэсурсы падпарадкаваць сабе эканомікі сваіх суседзяў. Плюс да таго ў Расеі ёсьць добры бонус у выглядзе панаваньня над суседзямі на працягу 18-20 стст., падчас якога Расея пасьпела асіміляваць шматлікія мясцовыя этнасы на завяваных тэрыторыях, у выніку чаго многія зь іх ужо зьніклі. А ў суседніх дзяржавах Расея пасьпела многа дзе ўкараніць сваю культуру. Не паўсюль гэта атрымалася пасьпяхова, але ў выпадку Беларусі вынікі ёсьць.

Падчас упартых намаганьняў, на працягу стагодзьдзяў палітычна і эканамічна інкарпараваць нашу краіну, наш усходні сусед здолеў амаль цалкам насадзіць нам сваю мову і моцна зьмяніў наш сьветапогляд, з-за чаго большасьць мясцовага насельніцтва часта атаясамліваюць сябе з этнічна, гістарычна і культурна чужымі для нас расейцамі. А такая ментальная метамарфоза можа прывесьці да таго, што мы, зусім нядаўна стаўшы самастойнымі, зноў можам трапіць у поўную залежнасьць да нашага ўсходняга суседа. Толькі на гэты раз, з трансфармаванай народнай ментальнасьцю, ужо без супраціўленьня. Да чаго гэта можа прывесьці нас у будучыні? Мы можам падзяліць лёс раней заваяваных і асіміляваных Расеяй народаў

– існуючы некаторы час этнічна беларусамі, адначасова ментальна поўнасьцю ператварыцца ў расейцаў. Вобразна кажучы, мы будзем некаторы час як этнас-"франкенштэйн" – фізічнае цела ёсьць, жыве, а душы няма. Але толькі некаторы час, бо паступова ў вялізным імперскім этнічным "плавільным катле" і этнічная самаідэнтычнасьць растварыцца сярод вялікай колькасьці такіх жа самых асіміляваных "рускіх" этнасаў. І тады можна будзе з поўнай упэўненасьцю канстатаваць сьмерць нашага народу, і духоўную, і фізічную.

І вось менавіта ў такі сьмяротна небясьпечны момант можа праявіцца ў народзе інстынкт самазахаваньня, як і ў любым жывым стварэньні, якое змагаецца за сваё жыцьцё. Зразумела, што ў этнасе інстынкт самазахаваньня выглядае інакш, чым у звычайнага чалавека. У чалавека – гэта выпрацоўка вялікай колькасьці адрэналіну. У народа – хуткае распаўсюджваньне нацыяналізма. З'явы розныя, але іх аб'ядноўвае адно – фізіялагічны інстынкт самазахаваньня свайго жыцьця. Адрозьніваецца і механізм дзеяньня. У чалавека пры ўзьдзеяньні адрэналіну імкліва павышаюцца ўсе дадзеныя яму прыродай фізіялагічныя магчымасьці, якія на працягу жыцьця стрымліваюцца яго падсьвядомасьцю, каб не перагружаць арганізм чалавека. Але пры сьмяротнай небяспецы, пры ўзьдзеяньні адрэналіну ўсе патэнцыйныя здольнасьці чалавека вызваляюцца з пад кантролю падсьвядомасьці і чалавек можа вырабляць такія рэчы, якія ў нармальным стане ніколі ня здолеў бы зрабіць.

Працэс самавыратаваньня народу з дапамогай нацыяналізму выглядае крыху інакш. У адрозьненьні ад аднаго чалавека, у цэлым народзе моцна актывізуюцца не фізіялагічныя, а духоўныя механізмы самазахаваньня. Людзі пачынаюць усё больш увагі надаваць сваёй этнічнай духоўнай існасьці. Нават, калі іх этнічная культура не з'яўляецца камерцыйна прыбытковай у параўнаньні з культурай эканамічна мацнейшых суседзяў. Галоўным пунктам намаганьняў пры захаваньні сваёй культуры з'яўляецца мова этнасу. Бо менавіта мова з'яўляецца тым самым унікальным этнічным інфармацыйным кодам, з дапамогай якога этнас можа стварыць усю сваю культуру, і духоўную, і матэрыяльную. А гэта этнічная аўтэнтычная культура, у сваю чаргу, дазваляе народу пасьпяхова вылучаць сябе сярод усіх суседніх культур і дае базу для тэарэтычнага абгрунтаваньня і практычнага стварэньня на сваёй этнічнай тэрыторыі трывалай этнічнай супольнасьці – нацыянальнай дзяржавы. І тым самым этнас захоўвае сваё існаваньне.

Спецыфіка жывёльнага інстынкту самазахаваньня ў тым, што, калі яго няма ўвогуле, то, ці чалавек, ці этнас, аднолькава асуджаныя на сьмерць праз нядоўгі час. Але калі гэты інстынкт будзе актывізаваны занадта доўга, то гэта таксама можа прывесьці да

